
# Наша свабода

www.svaboda.by
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

№59 (286) 5 ліпеня 2002 пятніца кошт свабодны падпісны індэкс 63478



**КАТАСТРОФА**

## *Над Германіяй пацярпелі і беларусы?*

**Сям'я прыватнага прадпрымальніка з Брэсту – у спісе пасажыраў самалёта, які разбіўся ў небе над Германіяй.**

Паводле не пацверджаных пакуль звестак, сярод пасажыраў Ту-154 авіякампаніі «Башкірскія авіялініі», які ў ноч з 1 на 2 ліпеня ў небе над Германіяй сутыкнуўся з «Боінгам-757», магчыма, была сям'я з Брэсту. Згодна з БелаПАНам, гэта сям'я Алега Шыслоўскага, аднаго з заснавальнікаў найбуйнейшага ў Брэсце прыватнага прадпрыемства па вытворчасці жаночых швейных вырабаў «Дзіёма».

# Вянок Лукашэнку

***Так ужо сталася, што ў той дзень, калі Расія смуткавала па сваіх дзецях, што загінулі ў небе Германіі, у Беларусі праходзілі ўрачыстасці з нагоды дня вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Як вядома, пры Лукашэнку дзень 3 ліпеня сталі яшчэ святкаваць і як дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Таму навіны ў СМІ Беларусі і Расіі асвятляліся па-рознаму.***

У Маскве беларускае свята было адзначана ўскладаннем вянка асабіста ад Лукашэнкі да магілы Невядомага салдата. А ў Мінску адбыўся ваенны парад. Гэтым разам без ваеннай тэхнікі з-за эканоміі сродкаў.

У мінулыя гады галоўнакамандуючы Лукашэнка ладзіў у гэты дзень шоу мала таго што з танкамі, дык яшчэ і з баявымі самалётамі. Але не толькі адсутнасцю ваеннай тэхнікі на парадзе было адзначана ўрачыстае мерапрыемства.

Працяг тэмы на стар. 3

**КОНКУРС**


Фота REX/ProMedia

**На нацыянальным конкурсе прыгажосці тытул «Міс Беларусь» здабыла Вольга Неўдах з Брэсту. 21-гадовая прыгажуня прымае кветкі і віншаванні. Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ далучаецца да гэтых віншаванняў і жадае Вользе шчасця і ўдачы.**

**СКАНДАЛ**

## Збілі супрацоўніц пасольства РБ

У цэнтры Масквы, каля дома №1 па Арлова-Давыдкаўскім завулку здзейснены напад на дзвюх дыпламатычных супрацоўніц пасольства Беларусі, перадае «Інтэрфакс».

Як паведамілі крыніцы ў праваахоўных органах расійскай сталіцы, каля гадзіны ночы ў сераду двое невядомых напалі на дзвюх жанчын – служачых пасольства РБ, збілі іх, адабралі грошы і дакументы, пасля чаго зніклі з месца злачынства.

У цэнтры горада ўведзены спецыяльны план пошуку злачынцаў па прыкметах «Сірэна-1», які пакуль што вынікаў не даў.

Шукаюцца маладыя людзі 20–25 гадоў, рост у абодвух вышэйшы за сярэдні, каля 180 см, хударлявага целаскладу. Адзін са злачынцаў адзеты ў шорты.

# Прамяняў Беларусь на «Беларусь»

## *Прэм'ер-міністр з'ехаў у адпачынак – ці заўважыць хто яго адсутнасць?*

З учарашняга дня ўрад працуе без Генадзя Навіцкага – ён разам з сям'ёй паехаў адпачываць у Юрмалу (Латвія). Паводле яго прэс-сакратара Івана Знаткевіча, час з 4 па 19 ліпеня старшыня кабінета міністраў мае правесці ў санаторыі «Беларусь».

Дзеля таго, каб краіна не вельмі пакутавала пры адсутнасці кіраўніка ўраду, Аляксандр Лукашэнка паклапаціўся пра годную замену – пакуль што часовую. У самы святочны дзень 3 ліпеня ён падпісаў указ аб наданні аднаму з намеснікаў старшыні кабінета міністраў – Сяргею Сідорскаму – статусу першага віцэ-прэм'ера. Гэта значыць, што менавіта ён будзе ачольваць урад – пакуль што часова.

Як ужо паведамлялася, Аляксандр Лукашэнка даўно жадае замяніць Генадзя Навіцкага – і цяпер ягоным фаварытам стаў якраз Сяргей Сідорскі. Але адных спадзяванняў мала – для кандыдата ў прэм'еры пачаліся «стэндавыя выпрабаванні».

Працяг тэмы на стар. 3

**АТРЫБУТЫ**

## *Зацверджаны гімн. Прыйдзецца слухаць*

2 чэрвеня, напярэдадні Дня Рэспублікі прэзідэнт А. Лукашэнка падпісаў указ аб зацвярджэнні ў якасці беларускага Дзяржаўнага гімна твор на музыку Нестара Сакалоўскага і словы Міхаіла Клімковіча і Уладзіміра Карызны (стары савецкіх часоў гімн з выкінутымі словамі пра Леніна, Сталіна і Партыю).

**ТАЛЕРАНТНАСЦЬ**

## Фашысты і гродзенская міліцыя

*Свастыка – не «Пагоня»: улады не раздражняе*

2 ліпеня па цэнтры Гродна крочылі чорнакашульнікі з РНЕ. Тры дзесяткі мужчын у чорнай уніформе з свастыкамі на кашулях дэманстравалі гораду *«русское национальное единство»*. У гэты час – перад абедам – у цэнтры Гродна знаходзяцца тысячы людзей. Міліцыя не затрымлівала чорнакашульнікаў. Яны свабодна прайшлі па горадзе двойчы, дайшоўшы да старажытнай Каложскай царквы. Абураным гараджанам у міліцыі адказвалі, што гэта «проста экскурсанты» з Расіі і Украіны, якія прыехалі, каб убачыць помнікі архітэктуры гораду над Нёманам.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Купала і незалежнасць

***У мінскім Доме літаратара адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 120-м угодкам нараджэння беларускага песняра. «Хоць сутнасць паэзіі Купалы сённяшнімі ўладамі і не вітаецца, гэта не перакрывае таго, што Купалава слова пільна патрэбнае сёння беларускаму народу», – зазначыў старшыня аргкамітэту канферэнцыі паэт Рыгор Барадулін.***

Выступілі таксама літаратурны крытык Анатоль Сідарэвіч, паэт Ніл Гілевіч, мовазнаўца Вінцук Вячорка, Віталь Скалабан ды іншыя. Слова мела таксама старшыня Саюзу пісьменнікаў Вольга Іпатава.

У дыскусіі выступоўцы адзначылі супрацьпастаўленне дзвюх рэвалюцый – нацыянальнай і сацыяльнай – у творчасці Я. Купалы. «Другая – жыццёва неабходная, але паспяховая толькі ў выпадку перамогі першай», – зазначыў адзін з удзельнікаў. Класік ужо тады, у першыя гады перамогі бальшавікоў, змог разгледзець памылковасць марных спадзеваў беларускай інтэлігенцыі на нацыянальнае адраджэнне ў складзе савецкай дзяржавы. Вольга Іпатава, старшыня Саюзу пісьменнікаў, зазначыла, што пра камуністаў беларускі паэт казаў рэзка і недвухсэнсоўна.

Гучалі таксама заклікі шукаць асноўныя нацыянальна-творчыя вызначальнікі – такія, як войска, моладзь, гімн, школа – у творчасці паэта, які змог ахапіць розныя бакі жыцця беларусаў. Падчас дыскусіі нарадзілася ідэя правесці рэспубліканскі з'езд беларускай інтэлігенцыі. Сабраныя прынялі Зварот, дзе адзначана, што «сёння зноў пад пагрозай Купалавы спадзевы ўбачыць Бацькаўшчыну незалежнай, яе народ – свабодным і заможным, беларускую мову – адроджанай. Гэтак не можа доўжыцца бясконца і пры нашым маўклівым патуранні».

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

*Працяг тэмы на стар 14-15*

## *Свабоду Пушкіну!*

Знакамітага мастака і майстра перформансу, сябра Партыі БНФ Алеся Пушкіна ўвечары 3 ліпеня каля Чырвонага касцёлу затрымала міліцыя. Алесь Пушкін падрыхтаваў перформанс – мастацкую дзею – да афіцыйнага Дня незалежнасці. Акцыя планавалася на ходніку паміж Чырвоным касцёлам і гатэлем «Мінск». Міліцыя і людзі ў цывільным, некаторыя яўна ў нецвярозым стане, напалі на творцу, не даўшы яму нават падрыхтавацца да перформансу, збілі і, нягледзячы на пратэсты прысутных, звезлі ў кірунку РАУС Маскоўскага раёну.

**КУРС НАЯЎНАГА ДАЛЯРА НА «ЧОРНЫМ РЫНКУ»**
**1820**

САЛІДАРНАСЦЬ

# Дырэктар — не прыхільнік «Тутэйшых»

*І усё ж 7 і 8 ліпеня адбудуцца спектаклі, знятыя раней з рэпертуару*

Паводле афіцыйнай версіі, «Тутэйшыя» былі забароненыя паўтара гады таму з прычыны тэхнічнай зношанасці сцэнічных дэкарацыяў. Апошнія зараз аднавілі, але невядома, ці надоўга трываласць сцэнічнага рыштунку забяспечыць шчаслівейшы лёс патрыятычнага твору Янкі Купалы. Дырэктар тэатру Генадзь Давыдзька адмовіўся цяпер выконваць у спектаклі ролю ўсходняга вучонага, а самую пастаноўку ён адносіць да ліку абразлівых для беларусаў.

– Памяркоўнасць, сціпласць, неабходнасць пад усіх лезці – гэта горкія рысы майго народу, – кажа Давыдзька, – а тое, што бальшавікі ўсіх забівалі – для каго гэта навіна?

Супрацьлеглая ацэнка купалаўскага твору – у рэжысёра Мікалая Пінігіна. Ён кажа, што «Тутэйшых» таму і былі забароненыя, што праз драматычны лёс галоўнага героя Мікіты Зноска, які хоча дагадзіць заваёўнікам і з Усходу і з Захаду, Янка Купала даводзіць, што беларус мусіць бараніць сваю мову, нацыянальную культуру і не дазваляць суседзям гаспадарыць у ягоным доме.

– Гэты спектакль раздражняе, і асабліва – бел-чырвона-белае палотнішча. Хлусня, што былі зламаныя дэкарацыі, любы спектакль можна адрамантаваць за месяц-два. Мне абяцалі, што «Тутэйшыя» будуць ісці ў наступным сезоне. Пабачым, – заявіў М.Пінігін.

За час працяглай адсутнасці «Тутэйшых» у рэпертуары адбыліся змены ў складзе выканаўцаў. Пайшоў з жыцця Анатоль Луцэвіч, які выконваў ролю Лявона Гарошкі. Яго замяніць Генадзь Аўсяннікаў. Замест Давыдзькі на сцэну выйдзе Аляксандр Падабед.

Фінал пастаноўкі, у якім анёлы ўздымаюць сімвалічны бел-чырвона-белы сцяг, рэжысёр вырашыў захаваць. І каб не было падставаў для абвінавачваньняў публікі ў хуліганстве, якім дзяржчыноўнікі лічылі воклічы «Жыве Беларусь!», Мікалай Пінігін будзе прасіць гледачоў абмежавацца больш сціплымі эмоцыямі.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Тавар са смецця

Па 17 рублёў за адзін кілаграм бітай шклатары выплачваюць у гарадскіх крамах Гомеля. Ініцыятар гэтага эксперыменту – мясцовы шклозавод, які мае магчымасці перапрацоўкі пляшак з-пад шампанскага і імпартных віна-гарэлачных напояў.

Тым часам у Брэсце таксама пачалі вырабляць тавар з гарадскога смецця. Прыватны прадпрымальнік Анатоль Васілюк закупляе на прадпрыемствах і ў насельніцтва нясвежую поліэтыленавую плёнку, каб потым вырабляць з яе гібкія шлангі і трубы. На вытворчасці, якая месціцца на арандаванай плошчы невялікай падсобкі гарадской гароднінавай базы, вырабляюць за працоўны дзень да 1,5 кіламетра трубаў розных дыяметраў.

У гарадскіх дварах у Брэсце зараз усталяваныя каля 50 кантэйнераў для збору мяккіх пластыкавых бутэлек. Прадпрымальнік Васілюк лічыць магчымай перапрацоўку гэтага смецця на ўпаковачны матэрыял.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

СТРАТЫ

# Чарціць у школе не навучышся

З таго часу, як была абвешчаная адукацыйная рэформа, кожны навучальны год прыносіць школьнікам і студэнтам, а таксама іхнім бацькам нейкія сюрпрызы.

Наступны мусіць узрадаваць вучняў, якія не любяць прадмет «чарчэнне», бо яно зусім мусіць знікнуць са школьнага раскладу. Гэта робіцца, каб знізіць вучэбную нагрузку на дзяцей. Апрача таго, скароціцца колькасць гадзінаў па некаторых іншых дысцыплінах, такіх, як руская і беларуская мовы і літаратуры, матэматыка, фізіка, музыка і спевы, а таксама выяўленчае мастацтва. У выніку ў пачатковых класах будзе максімум 4 урокі на дзень, у сярэдніх – 6 урокаў. І гэта пры пяцідзёнцы.

У мінскіх школах сярод навінаў – арганізацыя платных курсаў па прадметах, якіх няма ў школьнай праграме, а таксама пераход на 10-бальную сістэму адзнак.

Лагічна меркаваць, што палягчэнне школьных праграмаў, па-першае, паявіцца конкурс у спецыялізаваныя навучальныя ўстановы кшталту ліцэяў, а па-другое – прывядзе да скарачэння настаўніцкіх штатаў. Аднак што да перажыванняў настаўнікаў за свой лёс, то старшыня камітэту па адукацыі Мінгарвыканкаму Міхаіл Ціцянкоў кажа, што звальненняў педагогаў не прадугледжваецца. Нават наадварот – з-за недахопу кадраў сталічным школам якраз дадаткова патрабуецца каля тысячы настаўнікаў.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

АБВЯРЖЭННЕ

# Салігорск убіраецца ў краты

Абвалу кватэрных крадзяжоў у Салігорску, дзе шахцёрскія заробкі параўнальна высокія, супрацьпастаўлены зараз комплекс адмысловых ахоўных мерапрыемстваў. Гарвыканкам каардынуе працу міліцыі, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, службы быту, страхавых арганізацый і іншых установаў, якія дапамагаюць насельніцтву засцерагчыся ад зладзеяў. Перадусім прыводзяцца ў спраўнасць сістэмы электраасвятлення месцаў агульнага карыстання: вуліц, двароў, фасадаў будынкаў і пад'ездаў у іх. Пры праектаванні і будаўніцтве новых дамоў прадугледжваецца абавязковая ўстаноўка металічных дзвярэй на агульных уваходах, закрыццё іх на кодавыя замкі. Краты павышанай трываласці і аднолькавага ўзору з'явяцца на ўсіх аконных праёмах, балконах, лоджыях першых і верхніх паверхаў. Жыхарам камуналак прапанавана ў складчыну абсталяваць металічнымі дзвярыма з надзейнымі замкамі і засаўкамі ўваходы ў падвалы і на гарышчы, у машынныя аддзяленні ліфтаў, вентыляцыйныя шахты.

Улічваючы, што ВА «Беларуськалій» мае магчымасць дапамагчы сваім працаўнікам матэрыяльна ў кампаніі па масавай прафілактыцы нападаў мясцовых гангстэраў, пачын можа аказацца паспяховым. Шкада толькі, што архітэктура аднаго з самых маладых гарадоў Беларусі набывае турэмныя элементы – сімвал усё большай запалоханасці краіны і яе насельніцтва.

**Галіна БАРАВАЯ**

# Акцыя ля Крыжа пакуты

Сябры Партыі БНФ разам з групаю літоўскіх дэпутатаў і грамадскіх дзеячаў 29 чэрвеня ўшанавала 61-ю гадавіну масавага расстрэлу людзей савецкімі энкаведыстамі ў прыгарадзе Чэрвеня. У 1941 годзе тут палеглі грамадзяне Беларусі, Літвы і Польшчы, якіх НКВД гнаў з савецкіх турмаў на ўсход. Цяпер месца расстрэлу пазначаюць Крыж пакуты, праваслаўныя крыжы, польскі крыж-манумент, літоўская капліца.

Акцыю ладзіла Чэрвеньская рада Партыі БНФ. Мясцовыя ўлады зноў забаранілі жалобнаму шэсцю прайсці па горадзе. Ушанаванне адбылося ля Крыжа пакуты. Прамаўлялі дачка бязвінна забітага паэта Тодара Кляшторнага, старшыня «Мартыралогу Беларусі» Мая Кляшторная, удзельніца незалежніцкага супраціву Надзея Дземідовіч. Таксама ўзялі слова дэпутаты Сейму Літвы Антанас Стасішкіс, старшыня Лігі свабоды Літвы Антанас Тэрляцкас. Выступіў літоўскі хор і выканаўцы на трубах «*trimitas*».

Беларусы, літоўцы і палякі наведалі памятныя мясціны Чэрвеня: помнік ігумені-заснавальніцы гораду, якая трымае ў руках словы гімну «Магутны Божа»; памятную табліцу ў гонар кампазітара Міколы Равенскага; помнік выдатнаму кампазітару Станіславу Манюшку; мемарыяльную шыльду ў памяць маці Максіма Багдановіча Марыі Мякоты. Аўтар усіх помнікаў, як і Крыжа пакуты, – тутэйшы скульптар, сябра Партыі БНФ Генадзь Матусевіч.

**ІА Партыі БНФ**

ФЭСТЫ

# Інтарэсы ля рысталішчаў

У Беларусі створаныя ўжо 3 асацыяцыі вайскова-гістарычных клубаў. Аднак калі адна з іх арганізоўвае турніры ратнай пацехі, то дзве іншыя не ўдзельнічаюць. І гэтую іх унутраную абасобленасць наўрад ці можна спісаць на звычайны людскі эгаізм. Маладыя людзі, што адкрываюць для сябе і іншых культуру сярэднявечча, як правіла, апантаныя да фанатызму, шмат трацяцца на касцюмы гістарычнага перыяду і жадаюць адраблаць грошы на сваіх фэстах, а не шыхтавацца пад чужыя харугвы. Невыпадкова сечы латнікаў успыхваюць то ля Мядзела, то ў Заслаўі, альбо на Белым возеры на Берасцейшчыне.

У мінулыя выходныя старажытны Навагрудакператварыўся ў горад рыцараў. У другі раз на захаваных руінах сярэднявечча адбыўся фэст «Навагрудскі замак». Каля 70 клубаў з Беларусі, Расіі, Прыбалтыкі, Польшчы і Германіі, менестрэлі і міні-ансамблі падарылі месцічам і гасцям каларытнае свята. Арганізатары загадзя назвалі яго найбуйнейшым сярэднявечным мерапрыемствам на Усходняй Еўропе.

Шкада, што не ўсё з задуманага атрымалася. Дождж і шквалістыя вецер, прыкладам, разбурылі на Замкавай гары яшчэ не завершаную скульптуру караля Міндоўга з пяску. Падрыхтоўка да рыцарскіх паядынкаў неапраўдана доўга зацягвалася. Паўзы па 40 і болей хвілін не запаўняліся ніякім канцэртным ці забаўляльным відовішчам.

У тым, што адбывалася па-за турнірам у лагчыне між двух высокіх валоў Навагрудскага замчышча, выявілася павальная камерцыя такога кшталту, які раскручваецца на Беларусі штогадовымі дажынкамі. Цешыла хіба што ў адрозненне ад іх непараўнальна меншая колькасць п'яных кампаній. Гродзенскі і Навагрудскі АМАПы не затрымалі ніводнага парушальніка. Паслугі «хуткай дапамогі» спатрэбіліся толькі двойчы, калі нехта з гледачоў страчваў прытомнасць.



Першай з ліку арганізатараў фэсту, якімі заявіліся Міжнародная сярэднявечная ліга, клуб «Мінская унія», банк «Пошук», страхавая кампанія «Бролі» і Навагрудскі райвыканкам, выказалася па ягоных выніках мясцовая ўлада. Загадчык аддзелу культуры Навагрудскага райвыканкаму Аляксандр Карачан паведаміў, што 10-тысячны горад прыняў удвая большую колькасць гасцей. Практычна ніхто з іх не застаўся без падарунка, сувеніры каштавалі даражэй, чым у Мінску, узляцелі кошты на кватэры для турыстаў, аўтаамататары плацілі за ахову на стаянках.

– Мы плануем зрабіць наступны турнір крыху больш камерцыйным прадпрыемствам, – заявіў А.Карачан.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# Наша «мыльная опера»

Кінастудыя «Беларусьфільм» і Беларускае тэлебачанне неўзабаве абвесцяць конкурс на лепшы сцэнарый для серыялу. Вынікі конкурсу айчынных «мыльных опер» будуць падведзеныя да 17 снежня – Дня беларускага кіно. Калі ў «Беларусьфільма» і БТ будуць на тое грошы, серыял-пераможцу, а можа і некалькі, запусцяць у вытворчасць.

У гісторыі беларускага кінематографа серыяльны досвед быў. Першым з іх можна лічыць шматсерыйную экранізацыю рэжысёрам Віктарам Туравым рамана Івана Мележа «Палеская хроніка». Наступнага свайго серыялу беларусы прычакалі толькі пад канец 1990-ых гадоў. Гэта быў 33-серыйны «Праклятыя ўтульны дом», які паказалі на БТ. Ёсць яшчэ адзін серыял беларускай вытворчасці, зняты прыватнай кампаніяй ФІТ, «Паскораная дапамога», які закупіў адзін з расійскіх тэлеканалаў.

Між тым, тэхнічныя сродкі «Беларусьфільму» пакуль занятыя не серыяламі, а сур'ёзным кіно. Неўзабаве тут скончацца здымкі фільму «Лялька», а з сярэдзіны ліпеня на кінастудыі прыступяць у рэжыме эканоміі да працы над меладрамай «Анастасія Слуцкая». І зноў вялікае пытанне, ці стане «Анастасія Слуцкая» нацыянальным кіно. Узяць хоць бы акцёрскія кадры. На галоўныя ролі, як і ў блокбасцеры «У жніўні 44-га», запрошаныя небеларускія акцёры. Паводле густу рэжысёра карціны Юрыя Ялхова, нашыя актрысы няздольныя па-высокамастацку ўвасобіцца ў вобраз герaічнае княжны. Таму гэтая роля аддадзеная масквічцы, акцёрцы тэатру імя Маякоўскага Алесі Судзілоўскай. Адно цешыць, што Алеся мае беларускія карані.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

# Вянок Лукашэнку

*Заканчэнне, пачатак на стар. 1*

Усе звярнулі ўвагу, што ў сваім выступе Лукашэнка ні словам не згадаў пра стратэгічнага саюзніка – Расію. Вядома, на фоне пахаладнення стасункаў паміж прэзідэнтамі дзвюх краін гэта было не выпадкова. Як і даволі своеасаблівая іерархія цяперашняга кіраўніцтва Беларусі, якая назіралася на галоўнай трыбуне свята. І справа, і злева ад Лукашэнкі стаялі адны генералы. Некаторыя назіральнікі ўспрынялі гэта як змрочны знак.

Практычна ўсе масавыя мерапрыемствы з удзелам Лукашэнкі, як правіла, у розных СМІ звычайна супастаўляюцца з сімваламі, мерапрыемствамі савецкага часу. Тут і фізкультурнікі, і перасоўныя макеты, і карцінкі, і перадавікі вытворчасці, і ветэраны, і іншыя катэгорыі ўдзельнікаў. Сёлета ўсе савецкія атрыбуты таксама былі захаваны. Вось толькі столькі генералаў на трыбуне... Бадай, толькі на парадзе Перамогі ў 1945 годзе на трыбуне можна было назіраць кіраўніка ў шчыльным атачэнні гэтулькіх дзеячаў у ваеннай форме.

Прыгадайма, як звычайна размяшчалася ў такіх выпадках найвышэйшае кіраўніцтва тагачаснага Савецкага Саюзу. Па левую руку ад правадыра – рознага роду чыны ў цывільным, справа – ваенныя. Па аддаленасці ад цэнтральнай фігуры на трыбуне беспамылкова можна было меркаваць пра ступень уплывовасці чалавека ў кіраўніцтве краіны. Варта паводле гэткае ж методыкі прааналізаваць тых, хто стаяў 3 ліпеня 2002 году на трыбуне ў Мінску: злева ад Лукашэнкі стаялі ў двухзоркавых мундзірах дзяржсакратар Рады бяспекі Генадзь Нявыглас, Генеральны пракурор Віктар Шэйман, старшыня КДБ Леанід Ерын і старшыня Дзяржаўнага пагранічнага камітэту Аляксандр Паўлоўскі. Толькі потым – палатачныя спікеры і іншыя цывільныя. Такое месца займае сёння ў Беларусі заканадаўчая галіна ўлады.

Па левую руку – міністр абароны генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў і міністр унутраных справаў Уладзімір Навумаў. У адрозненне ад іх, наступныя – прэм'ер-міністр Генадзь Навіцкі і кіраўнік прэзідэнцкай Адміністрацыі Урал Латыпаў – ледзьве трапілі ў тэлекадры беларускага тэлебачання. Такое месца кіраўніка ўраду на трыбуне, агулам кажучы, успрымалася досыць лагічным пасля таго, як нядаўна ў Авальнай залі ніжняй палаты дэпутат Парфяновіч спрабаваў уручыць Навіцкаму «вянок» для добраахвотнай адстаўкі. Зрэшты, кажуць чыноўнікі, для прэзідэнта ён ужо не жылец. І пытанне пра яго звальненне застаецца вельмі актуальным.

Як і пытанне: калі і дзе адбудзецца абяцаная Пуціным «да канца чэрвеня» сустрэча з Лукашэнкам? Чакалася, што гаспадар Крамля, магчыма, зазірне да Лукашэнкі па дарозе дадому з Канады. Як калісьці па дарозе ў Лондан. Помніцца, пасля той сустрэчы ў Заслаўі, як здалося многім, Лукашэнка выглядаў бледным, нібыта расійскі госць нечым яго напужаў. Пазней зрабілася відавочным, што часы «ельцынскай» дружбы і цярпімасці з боку новага гаспадара Крамля для гаспадара Драздоў скончыліся.

І калі, як можна дапусціць, у Мінску сустрэчу на найвышэйшым узроўні чакаюць з прыкметным хваляваннем, то ў Маскве – з халодным вытрымкай. Там не маглі не звярнуць увагі не толькі на адсутнасць у Лукашэнкавым выступе згадкі пра братні саюз з Расіяй. Трэцяга ліпеня на трыбуне Кастрычніцкай плошчы прагучалі і словы пра непрымальнасць ціску на Беларусь ад каго б там ні было. Раней, калі гаварылася ў такім духу, то заўсёды згадваўся толькі Захад.

**Раман ЯКАЎЛЕЎСКІ**

ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

**7 ліпеня 2000 года знік наш калега — тэлеаператар**



Рэпарцёры — не палітыкі. Журналісты — не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра — няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і па якім праве распараджаецца яго лёсам?

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

# Прадпрымальнікі ставяць ультыматум

**На 31 ліпеня запланавана нацыянальная забастоўка прадпрымальнікаў, а з 1 верасня можа быць абвешчана іх бестэрміновая агульнанацыянальная забастоўка са спыненнем уплаты падаткаў і пералічэння іншых плацяжоў у бюджэт. Аб гэтым паведаміў БелаПАНу кіраўнік страйкаму прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі.**

Паводле яго словаў, акцыі плануюцца ў сувязі з падрыхтоўкай праекта дэкрэту прэзідэнта, у адпаведнасці з якім 1 верасня ў 2–3 разы павышаюцца стаўкі адзінага падатку; павялічаны каэфіцыент ставак для прадпрымальнікаў, якія гандлююць імпартным таварам, уздымаецца з 1,3 да 2; штрафныя санкцыі вырастаюць у 5 разоў.

Як паведамлялася, 20 чэрвеня ў Гродне прайшла папераджальная забастоўка прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рынках. Забастоўшчыкі пратэставалі супраць рашэння мясцовых уладаў аб павышэнні ставак на права гандлю, абавязковай сертыфікацыі тавараў, што рэалізуюцца на рынках. В. Леванеўскі не змог узяць удзел у акцыі, бо адбываў 15-сутачны адміністрацыйны арышт.

Першага ліпеня ў Слоніме (Гродзенская вобласць) аб'яўлена месячная забастоўка індывідуальных прадпрымальнікаў. Яны патрабуюць змяншэння падаткаў, уведзеных Гродзенскім аблвыканкамам, і на працягу гэтага часу не збіраюцца плаціць падаткі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Прамяняў Беларусь на «Беларусь»

*Заканчэнне, пачатак на стар. 1*

За бліжэйшыя два тыдні Сяргею Сідорскаму неабходна годна праявіць сябе ў якасці кіраўніка ўраду, адказнага за ўсё, што адбываецца ў краіне.

Адначасова з новым прызначэннем С. Сідорскага кіраўнік дзяржавы зрабіў яшчэ адным віцэ-прэм'ерам Анатоля Цюцюнова – той прыйшоў ва ўрад з пасады генеральнага дырэктара ААТ «Керамін», якое займаецца вытворчасцю абліцовачнай пліткі. А віцэ-прэм'ер Андрэй Кабякоў цяпер атрымаў «у дадатак» яшчэ і цяжкую пасаду міністра эканомікі. Цяпер менавіта ён будзе выконваць функцыі «хлопчыка для біцця» за нізкія паказчыкі і невыкананне прэзідэнцкага прагнозу на 2002 год.





Генадзь Навіцкі і Сяргей Сідорскі – знайдзіце дзесяць адрозненняў

Але вернемся да нашага Навіцкага. Перад ад'ездам на адпачынак ён адрапартаваў кіраўніку дзяржавы пра поспехі краіны за першае паўгоддзе гэтага году. Як паведаміла прэзідэнцкая прэс-служба, старшыня ўраду заявіў пра выкананне бюджэту за гэты час на 103,7% – гэта забяспечыла амаль палову ад даходнай часткі году. Для параўнання: летась за такі ж тэрмін удалося выканаць толькі 44% даходнай часткі бюджэту, і з-за гэтага ў канцы году даводзілася перапісваць бюджэт і скарачаць выдаткі. Наўрад ці нават такія фінансавыя поспехі выратуюць Генадзя Навіцкага ад хуткай адстаўкі. У краіне павінен быць чалавек, які нясе поўную адказнасць за занепад эканомікі, няспалату заробкаў і 5-разовае падвышэнне кошту камунальных паслугаў. І гэты чалавек – зусім не той, хто кіруе дзяржавай, бо ўчорашнія выбаршчыкі не зразумеюць...

Аляксандр Лукашэнка нездарма пажадаў прэм'еру перад адпачынкам дасканала падрыхтавацца да маючай адбыцца справаздачы Савету міністраў за першае паўгоддзе. Відавочна, што ўжо цяпер у гэтага строгага экзаменатара ёсць у кішэні пытанні, на якія ўрад не мае адказу. Так што лёс Генадзя Навіцкага ў прэм'ерскім фатэлі можна лічыць перадвырашаным – невядомая пакуль толькі дата адстаўкі.

Самае прыкрае – гэта тое, што адстаўкі прэм'ера ніхто не заўважыць. Генадзь Васільевіч мае спецыфічную знешнасць, зусім не выгодную для самастойнага і адказнага палітыка – яе немагчыма запомніць ні з першага, ні з другога погляду. Выйшаў бы ён на вуліцу, прайшоўся па Мінску (не кажучы нават пра іншыя гарады і вёскі) – ніхто б яго не пазнаў.

Не вельмі на слыху і само прозвішча старшыні ўраду – спробы папытацца ў звычайных грамадзянаў, як завуць прэм'ер-міністра нашай краіны, не прыносяць плёну. Ну не вызначыўся ён як сапраўдная палітычная фігура! І таму хутка яго зменіць яшчэ адзін чалавек ураду, які мае ўсе шанцы стаць новым «ананімам», гатовым у патрэбны час узяць на сябе ўсе грахі і назаўсёды сысці ў пустыню чалавечага забыцця.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**АКТУАЛЬНАЯ ЦЫТАТА**

***«Самае ж дзівоснае – згодна са звесткамі ўраду, рэальныя грашовыя даходы насельніцтва за студзень-красавік у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага году павялічыліся на 17%...»***

**БДГ**



БАНКРУЦТВЫ

## «Лопнуў» гумавы завод

**Незайздросная будучыня шматлікіх беларускіх прадпрыемстваў з-за фізічнай зношанасці асноўных фондаў ужо напаткала Капыльскі завод гуматэхнічных вырабаў. У гаспадарчым судзе Мінскай вобласці ўзбуджаная справа аб банкруцтве вытворчасці, якая раней давала працу некальком сотням месціча ў.**

Былы галоўны цэх па вырабе гумавага абутку спынены з пачатку гэтага году. У 2001 тут склеілі 36 тысяч параў ботаў чорнага колеру пасляваеннага ўзору, і гэта сталася найбольш глыбокім правалам за ўсю гісторыю існавання заводу. У пік папулярнасці калгасна-пралетарскага абутку ў Капылі яго выраблялі 1 300 000 параў. Завод меў усесаюзную славу, узначальваў зводкі дасягненняў, а каб уладкавацца сюды на працу, трэба было дачакацца сваёй чаргі. Зараз жа многія былыя працаўнікі адзначаюцца на мясцовай біржы, бо ў гарадку раённага маштабу адбываюцца таксама скарачэнні на іншых нешматлікіх прадпрыемствах, пераважна перапрацоўчай галіны. Развітаўся са сваім кабінетам і генеральны дырэктар М.Амельянчук. Замест яго з Мінску прызначаны часовы кіраўнік Сяргей Бялкоў. Яго галоўная задача цяпер не разбазарыць канчаткова маёмасць і падрыхтаваць план фінансавага аздараўлення прадпрыемства, калі такое яшчэ магчыма. Паралельна распрацоўваецца механізм ліквідацыі вытворчасці, бо знос абсталявання дасягнуў 85%. Тут ёсць станкі яшчэ 60-х гадоў, а самы новы кацёл у ацяпляльнай качагарцы выраблены ў 1944 годзе, два іншыя – з трыццатых.

Сёньняшнія даўгі банкрута перавышаюць 400 мільёнаў рублёў, у тым ліку 12 мільёнаў – па зарплаце. На заводзе адключаныя тэлефоны і электраасвятленне.

Гэты фінансавы крах адлюстроўвае заганнасць дзяржаўнай эканамічнай палітыкі ў апошнія гады. На пачатку 90-х рэнтабельнасць гумавых вырабаў дасягала 40%, але ўвесь прыбытак лідэра на перыферыі выграбаўся вышэйстаячым канцэрнам. Набыццё новага абсталявання і рэканструкцыя энергетычнай гаспадаркі ў Капылі мала каго хвалявала. Абласное начальства, пасля прэзідэнцкіх выбараў, «запускала» за кошт прадпрыемстваў, якія трымаліся «на плаву» іншую райвытворчасць. У выніку такіх метадаў выжывання ўгробілі практычна ўсю мясцовую прамысловасць. Толькі ў мінулым годзе ў гаспадарчыя суды Беларусі пададзеныя 922 заявы аб эканамічнай неадпаведнасці суб'ектаў гаспадарання. Абсалютная большасць з іх закрываецца з тых жа прычынаў, што і ў Капылі.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

# Захаранку прызнаюць памерлым?

***20 чэрвеня Вольга Захаранка перадала ў Кастрычніцкі суд Мінску іск аб прызнанні былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі памерлым. 25 чэрвеня ў рэспубліканскай газеце «Народная воля», а 2 ліпеня – у «Вячэрнім Мінску» паводле пастановы суду надрукаваныя аб'явы з заклікам да ўсіх грамадзянаў, якія маюць якія-кольвечы звесткі пра месцазнаходжанне Ю.Захаранкі, адгукнуцца.***

Цягам бліжэйшых двух месяцаў суд будзе чакаць такіх зваротаў, а калі за гэты перыяд звестак пра месцазнаходжанне экс-міністра не з'явіцца, Кастрычніцкі райсуд можа прызнаць зніклага палітыка памерлым. Гэта дасць магчымасць сям'і апальнага генерала, пра лёс якога няма ніякіх звестак вось ужо чацвёрты год, распараджацца маёмасцю. Пра пачатак працэсу паведаміў юрыдычны прадстаўнік сям'і ў Мінску, прэзідэнт арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву» Алег Волчак.



**Злева направа: Алена Захаранка, Алег Волчак, Вольга Захаранка, красавік 2002 году**

Сям'я Захаранкаў спадзяецца ў судовым парадку высветліць лёс Юрыя Захаранкі. Экс-міністр знік у Мінску 7 траўня 1999 году ў раёне вуліцы Магілёўскай. Праз чатыры месяцы пракуратура Мінску ўзбудзіла крымінальную справу па артыкуле 101 Крымінальнага кодэксу – наўмыснае забойства. Аднак папярэдняе следства, якое цягнецца дагэтуль, не здолела выявіць сведкаў і віда вочцаў таго злачынства. Месцазнаходжанне Юрыя Захаранкі дагэтуль невядомае. Таму 20 чэрвеня Вольга Захаранка і падала іск у Кастрычніцкі суд Мінску.

Насамрэч сям'я Захаранкаў (Вольга Захаранка, дочкі Алена і Юля, унук Кірыла) пад пагрозай фізічнай расправы выехала ў Германію, дзе атрымала палітычны прытулак. Сваякі апальнага экс-міністра жывуць за 12 кіламетраў ад Мюнстэра. Яны не збіраюцца назаўсёды заставацца ў Германіі, але іхняе жаданне вярнуцца ў Беларусь пакуль неажыццяўляльнае: Захаранкі баяцца за свае жыцці.

У іскавай заяве ў Кастрычніцкі суд Вольга Захаранка назвала трох сведкаў, якія бачылі Юрыя Захаранку ў той чорны дзень – 7 траўня. Гэтым днём апальны міністр меў сустрэчы з фотакарэспандэнтам Уладзімірам Кармілкіным, былым супрацоўнікам крымінальнага вышуку Уладзімірам Арэставым і сваім паплечнікам па стварэнні Саюзу афіцэраў Уладзімірам Барадачом. Усе трое, па словах А.Волчака, гатовы пацвердзіць у судзе, што Юрый Захаранка пачуваў і паводзіў сябе як звычайна, яго нічога не турбавала. Сведкі гатовы пацвердзіць, што ні 7 траўня, ні ў іншыя бліжэйшыя дні Ю.Захаранка не збіраўся з'язджаць з Мінску.

«Многія думаюць, што сваякі завочна прызналі, што Юрыя Захаранкі няма. Не. Яны будуць, як і раней, дабівацца таго, каб як мага болей людзей свету даведаліся, што ў цэнтры Еўропы знікаюць людзі. Тыя людзі, якія змагаліся за правы іншых грамадзянаў, спрабуючы зрабіць Беларусь свабоднай і дэмакратычнай. І таму яны будуць змагацца з рэжымам далей. Яны ўпэўненыя, што прыйдзе час, і людзі даведаюцца ўсю праўду пра тое, як быў скрадзены Юрый Захаранка», – заявіў Алег Волчак.

**Рыгор БУЯН**

ЭКАНАМІЧНЫЯ НАТАТКІ

## ДАІ будзе мець РУПы

МУС падрыхтавала праект указу прэзідэнта «Аб стварэнні Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства» (РУП). Новае ўтварэнне, як плануецца, узнікне на базе рэгістрацыйна-экзаменацыйных падраздзяленняў ДАІ. Гэтыя структуры і далей будуць выконваць свае абавязкі, толькі на правах звычайных суб'ектаў гаспадарання з акрэсленым наборам паслугаў. Акрамя таго, РУПы будуць прымаць удзел у арганізацыі і правядзенні тэхаглядаў, а таксама самастойна ўсталёўваць памеры ставак і збораў з уладальнікаў транспартных сродкаў, узгадняючы іх з МУС. Узнікненню дакумента садзейнічала эфектыўнасць падобнай практыкі ў Літве.



## Газавы клопат

Урад краіны з 1 ліпеня зменшыў кошт на газ для беларускіх прадпрыемстваў на 4,1%. На працягу двух апошніх месяцаў нашыя прадпрыемствы атрымлівалі газ па коштах, зніжаных міждзяржаўным саветам Расіі і Беларусі ў траўні 2002 году. Атрыманая эканомія ад гэтых паставак пайшла на пагашэнне запазычанасці перад «Газпромам». Па дадзеных ураду, месяц таму доўг Беларусі перад «Газпромам» складаў 264 млн. даляраў і павялічыўся за адзін месяц да гэтага тэрміну на 6,6 млн. даляраў.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Да Еўропы – як да Месяца

**Перанос візіту дзеючага старшыні АБСЕ міністра замежных справаў Антоніо Марцінеса да Круза ды генеральнага сакратара АБСЕ Яна Кубіша аўтаматычна адсунуў паляпшэнне стасункаў з арганізацыяй як мінімум на паўгода.**

Кіраўніцтва АБСЕ ініцыявала прыезд дэлегацыі 1–2 ліпеня – перад сесіяй ПА АБСЕ ў Берліне, якая пройдзе 6–10 ліпеня. Аднак афіцыйны Мінск знайшоў адгаворку, каб не высвятляць адносінаў з найбуйнейшай еўрапейскай арганізацыяй, – святкаванне Дня Рэспублікі.

Антоніо Марцінес да Круз з Янам Кубішам меркавалі прыехаць у Мінск 1–2 ліпеня дзеля высвятлення сітуацыі з Кансультацыйна-назіральнай групай АБСЕ на месцы. Па сутнасці, гэта быў і адказ АБСЕ на абвінавачанне міністра замежных справаў Міхаіла Хвастова, што арганізацыя «прыкладае вельмі мала намаганняў», каб «развязаць» сітуацыю на Беларусі. Прыезд дзеючага старшыні АБСЕ Антоніо Марцінеса да Круза адвочна быў звязаны з яго ным візітам 1 ліпеня ў Маскву, дзе з міністрам замежных справаў Расіі ён абмяркоўваў, сярод іншага, і «далейшыя крокі па перадоленні тупіка, што ўзнік вакол КНГ АБСЕ ў Беларусі».

Афіцыйна Мінск дзейнічае па прынцыпе: спачатку саступае АБСЕ, і толькі затым – кіраўніцтва Беларусі. Аднаўленне паўнавартаснай працы КНГ АБСЕ магчымае толькі пры карэкціроўцы мандата КНГ, заяўляюць у Мінску. Варта нагадаць, што цяпер у офісе КНГ працуе толькі малдаванка Аліна Жасану. 15 красавіка афіцыйны Мінск не прадоўжыў візу выканаўцу абавязкаў КНГ Мішэлю Рывальге, з-за чаго дыпламат фактычна быў выдвараны з краіны. 3 чэрвеня такі ж лёс напаткаў і ягонага спадкаемцу Эндру Карпентэра, а прадстаўніцу ЗША адклікалі ў Вену для кансультацыяў.

Пасля адтэрміноўкі візіту старшынства АБСЕ не варта чакаць, што пытанне пра Беларусь вырашыцца на ліпеньскай сесіі. У Берлін, як заўжды, паедуць афіцыйная дэлегацыя з намеснікам старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімірам Канаплёвым і дэлегацыя Кансультацыйнай рады апазіцыйных партыяў. Публічна заяўляючы пра неабходнасць вяртання Беларусі ў Еўропу, афіцыйны Мінск праводзіць палітыку з дакладнасцю да наадварот.

Старшыня камісіі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы Савету Рэспублікі Мікалай Чаргінец 2 ліпеня без ценю сумнення абвінавáціў кіраўніцтва АБСЕ ў тым, што яно «само груба парушае статутныя патрабаванні арганізацыі», не прызнаючы Нацыянальнага сходу. Аднак размова з Еўропай па прынцыпе «сам дурань» ніколі не давала – і не дасць – станоўчых вынікаў. А менавіта такім макарам афіцыйны Мінск спрабуе наладжваць з ёю стасункі.

Што да пазіцыі Еўропы, то дэлегацыя Кансультацыйнай рады мае намер перадаць ПА АБСЕ прапановы правесці ўвосень трэцюю тэхнічную канферэнцыю па Беларусі, на якой канчаткова і вырашыць: што рабіць? 6 ліпеня Сталая рада АБСЕ заслухае справаздачу кіраўніка Рабочай групы па Беларусі Уты Цапф пра візіт у Мінск 20–23 траўня. 8 ліпеня ў рамках сесіі пройдзе «круглы стол» з прадстаўнікамі бакоў-апанентаў па сітуацыі на Беларусі. Размова пойдзе пра пашырэнне рэпрэсіяў супраць незалежных СМІ. Афіцыйны Мінск уласнымі рукамі праводзіць курс дэлегітымізацыі «Нацыянальнага сходу». Ніякая апазіцыя не зробіць гэта лепш.

**Рыгор БУЯН**

# Знакавыя меркаванні маскоўскіх правых

## *Барыс Нямцоў аб прагматычным успрыняцці У.Пуціным саюзу з Беларуссю*

Падчас сустрэчы прэзідэнта Расіі Пуціна з лідэрамі думскіх фракцыяў істотную частку гаворкі заняла праблема зніклых грамадскіх дзеячаў у Беларусі. Кіраўнікі пяці фракцыяў Дзяржрумы Расіі звярнуліся да прэзідэнта са зваротам на гэтую тэму. Удзельнікам сустрэчы ў Крамлі быў кіраўнік фракцыі Саюзу правых сілаў Барыс Нямцоў. У інтэрв'ю Радыё Свабода ён выклаў падрабязнасці размовы думскіх лідэраў з Уладзімірам Пуціным.

**Кар.: Спадар Нямцоў, як праходзіла частка сустрэчы, прысвечаная праблеме зніклых грамадскіх дзеячаў у Беларусі, як рэагаваў Уладзімір Пуцін на адпаведны зварот пяці фракцыяў Дзяржрумы?**

**Нямцоў:** Ён вельмі ўважліва выслухаў, сказаў, што гэта сур'ёзная праблема, што ён пра яе ведае, сказаў, што абавязкова будзе на гэтую тэму гаварыць з Лукашэнкам. Пры канцы сустрэчы, якая доўжылася больш за 4 гадзіны, ён сказаў: «Вельмі дрэнна, калі правая апазіцыя, – гледзячы на мяне, – альбо левая апазіцыя, – гледзячы на Зюганава, – кудысьці знікае». Мне здаецца, што вось гэтая апошняя заўвага вельмі сімвалічная.

Увогуле я мушу сказаць, што пазіцыя прэзідэнта ў стасунку да Беларусі абсалютна дакладная, выразная. Я маю на ўвазе прэзідэнта Пуціна, натуральна. Мяне цяжка западозрыць у падлізніцтве, але ў гэтай справе я падтрымліваю прэзідэнта на 100 адсоткаў. Так, саюз патрэбны, так, нам патрэбнае эканамічнае аб'яднанне, безумоўна, геапалітычныя плюсы ёсць для абедзвюх краінаў. Але мы не можам рабіць саюз крывадушным, і мы не можам аб'ядноўваць дэмакратычную Расію з дыктатарскай Беларуссю.

Далей, аб'яднанне магчымае толькі паводле двух сцэнароў. *Сцэнар нумар адзін:* Беларусь уваходзіць у склад Расійскай Федэрацыі. Сцэнар, мяркуючы па ўсім, малапрымальны для Беларусі, але гэты сцэнар здымае ўсю шырму крывадушных размоваў і запэўніванняў у любові і сяброўстве. *Другі сцэнар* – гэта аб'яднанне паводле ўзору Еўрасаюзу, калі ёсць парламент саюзнай дзяржавы, гэты парламент прымае законы ў пытаннях супольнай кампетэнцыі, але гэтыя законы пачынаюць дзейнічаць толькі тады, калі яны ратыфікаваныя як Дзяржаўнай Думай у Расіі, так і Вярхоўным Саветам у Беларусі.

Вось гэтая тэхналогія канфедэрацыі таксама дзеяздольная і дазваляе выразна і ясна размежаваць кампетэнцыю саюзу і краінаў, якія ў яго ўваходзяць.

**Кар.: А якой у гэтай сітуацыі вам бачыцца пазіцыя афіцыйнага Мінску, пазіцыя Аляксандра Лукашэнкі?**




**Нямцоў:** Лукашэнка займае досыць цынічную пазіцыю ў гэтай справе: ён кажа, што галоўная задача – гэта яму, Лукашэнку, выйсці на бяскрайнія прасторы Расіі. Мы яго сюды не пусцім, гэта я магу гарантаваць, няма яму тут чаго рабіць, у нас сваіх такіх хапае. Я магу толькі паспачуваць беларускаму народу, што яны яго абралі. Але нам такіх падарункаў з Мінску не трэба зусім. І гэта пазіцыя не толькі Саюзу правых сілаў і Нямцова асабіста, а – я вас запэўніваю – гэта пазіцыя ўсіх разважлівых палітычных сілаў Расіі. Усіх без вынятку. Далей, і я думаю, што ў яго будуць праблемы, калі ён і надалей будзе замоўчваць гэтую справу знікненняў палітыкаў, журналістаў, бізнесменаў. Чамусьці калі здарылася трагедыя з Гангадзе, увесь свет, улучна з Расіяй, гэтай тэмай цікавіўся, і вельмі моцны ціск рабіўся на прэзідэнта Кучму, каб ён гэтую справу не замоўчваў. А ў Беларусі не адна такая справа, іх шмат, і чаму мы павінны чакаць, пакуль Дзярждэпартамент ЗША, Савет Еўропы, канцлер Шродэр ці прэзідэнт Шырак будуць ціснуць на Лукашэнку? У тым, каб у Беларусі была дэмакратыя, Расія зацікаўлена ў большай ступені, чымсьці іншыя краіны. Мы хочам аб'ядноўвацца. Яны ж не збіраюцца. Таму я лічу, што пазіцыя, якую зараз заняло кіраўніцтва Расіі, абсалютна правільная і адпавядае інтарэсам і Расіі, і Беларусі, і мы і далей будзем настойваць на тым, каб гэтыя жудасныя нераскрытыя цёмныя справы ўсё-ткі зрушыліся.

**Кар.: Маё наступнае пытанне тычыцца, так бы мовіць, палітычнай кухні. СПС і *«Яблоко»* заўсёды адгукаліся на звароты з Беларусі наконт справаў зніклых. Аднак і «Адзінства», і ОВР, і Крэмль захоўвалі маўчанне. Але зараз і гэтыя фракцыі, і прэзідэнт раптам выказалі занепакоенасць гэтай праблемаю. Чаму?**

**Нямцоў:** Я лічу, што гэта знакавая падзея, і тое, што кіраўнік фракцыі «Адзінства» Уладзімір Пехцін браў удзел у сустрэчы, і тое, што кіраўнік фракцыі «Айчына» Валодзін сустракаўся з жонкамі беларускіх палітыкаў і бізнесменаў. Я лічу, што такая ўвага Крамля да гэтай праблемы – вельмі добры знак. Чаму? Таму што вось гэтая крывадушная істэрыка пра любоў і сяброўства сыходзіць у мінулае, і зараз нас цікавіць толькі змястоўны, рэалістычны і прагматычны падыход. Я думаю, што гэтая палітыка, якую, на маю думку, слушна праводзіць прэзідэнт Пуцін у стасунку да Беларусі, адпавядае нацыянальным інтарэсам як беларускага боку, так і расійскага.

Рэч у тым, што Пуцін не мае на сабе цяжару адказнасці за Белавежскія пагадненні, ён не мае цяжару адказнасці за тыя незлічоныя пацалункі і абдымкі, якія мы цягам апошніх дзесяці гадоў бачылі і ў тэлевізіі, і на свае вочы. Ён мае задачу: абараніць інтарэсы Расіі і зрабіць усё так, каб ні беларускі бок, ні расійскі не пацярпеў у выніку ўсіх гэтых аб'яднанняў. І ён, на мой погляд, прытрымліваецца вось гэтага прагматычнага пункту гледжання. Рэч у тым, што Лукашэнка – гэта ж мінулае. Яму не трэба ніякага аб'яднання, яму трэба нейкім чынам уплываць на палітычнае жыццё ў Расіі, а яшчэ лепей – паспрабаваць Расію пад сябе падмяць.

**Кар.: Пуцін у размове з лідэрамі фракцыяў выказаў занепакоенасць сітуацыяй са зніклымі ў Беларусі. Аднак што можа і што будзе рабіць Расія ў гэтай справе?**

**Нямцоў:** Я думаю так: ёсць пагадненне, – хоць яно толькі на паперы, як і практычна ўсе нашыя пагадненні з Беларуссю, – пагадненне паміж КДБ і ФСБ Расіі, ёсць пагадненні паміж міністэрствамі ўнутраных справаў дзвюх краінаў, у рамках гэтых пагадненняў магчымае стварэнне сумеснай групы ў справе расследавання. Натуральна, калі будзе добрая воля Лукашэнкі. Відавочна, было б добра для Лукашэнкі, калі б пасля звароту нашага прэзідэнта ён бы адрэагаваў не так, што гэта, маўляў, наша справа і мы нікога сюды не пусцім, а каб ён адкрыта сказаў: так, добра, давайце супольнымі намаганнямі шукаць таго, хто гэта ўсё зрабіў. Гэта было б цудоўна. Але, з іншага боку, у ягоных руках усе магчымасці.

**Юры Дракахруст, Прага**
**Радыё «Свабода»**
*Друкуецца ў скароце*

# Неацэнны Дзень Рэспублікі

**Трэцяга ліпеня Беларусь шосты раз адзначыла Дзень Рэспублікі, перанесены з 27 ліпеня на 3 ліпеня на рэферэндуме 1996 году. Дагэтуль дзень 3 ліпеня традыцыйна святкаваўся як дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.**

Савецкія традыцыі жывуць па-ранейшаму, а таму святкаванне Дня Рэспублікі пачалося ўжо напярэдадні: 2 ліпеня ў Мінску прайшоў урачысты сход, прысвечаны Дню Рэспублікі, у якім узяў удзел А.Лукашэнка. Раніцой 3 ліпеня кіраўнік Беларусі разам з іншымі вышэйшымі службовымі асобамі краіны і ветэранамі Вялікай Айчыннай вайны ўсклаў вянкі да помніка Перамогі; на Кастрычніцкай плошчы прайшоў парад войскаў Мінскага гарнізону. Праўда, парад адбыўся без удзелу ваеннай тэхнікі – казна пустая. Трэцяга ліпеня ў Мінску адбылося і вялікае спартыўна-мастацкае свята на сталічным стадыёне «Дынама».

У колькі ж абышоўся дзяржаўнаму скарбу цяперашні Дзень Рэспублікі – даведацца цяжка. У жабрачай дзяржаве падобныя пытанні хаваюцца за сямю пячаткамі. Бо ўнутраны дзяржаўны доўг Беларусі павялічыўся за травень гэтага году на 3,4% і склаў на 1 чэрвеня 948,3 мільярда рублёў. У Мінску, на які, як і належыць сталіцы, кладзецца асноўны цяжар фінансавага забеспячэння свята, запазычанасць па зарплаце маюць 14 прадпрыемстваў – гэта 2,8 мільярда рублёў, або 2,4% ад месячнага фонду заработнай платы па Мінску.

Дзень Рэспублікі паглынае не толькі непасрэдныя, але і ўскосныя фінансавыя выдаткі. Рэч у тым, што спецыяльна да 3 ліпеня скончаны першы этап рэканструкцыі плошчы Незалежнасці. У сувязі з гэтым 27 чэрвеня Мінскі гарсавет унёс змены ў гарадскі бюджэт, у тым ліку і звязаныя з рэканструкцыяй. Начальнік фінансавага ўпраўлення Мінгарвыканкаму Аляксандр Кержажыцкі паведаміў, што на бягучы і капітальны рамонт дарожных пакрыццяў, падземных пераходаў, мастоў і пуцеправодаў павялічаны асігнаванні: адміністрацыям раёнаў – у суме 775 мільёнаў рублёў, унітарнаму прадпрыемству «Гаррамаўтадар Мінгарвыканкаму» – у суме 825 мільёнаў рублёў. Расходная частка гарадскога бюджэту, такім чынам, дасягнула 1 трыльёна 11 мільярдаў 800 мільёнаў 404,9 тысячы рублёў.

Напярэдадні рэканструкцыі плошчы Незалежнасці гаварылася, што першы яе этап быў разлічаны да канца гэтага году: за гэты час належала выпрастаць галоўную транспартную магістраль, пабудаваць два падземныя пешаходныя пераходы з убудаванымі гандлёвымі пунктамі, а таксама ўпарадкаваць тэрыторыю каля Мінгарвыканкаму і Белдзяржуніверсітэту. На гэта, паводле словаў намесніка старшыні Мінскага гарвыканкаму Вячаслава Кушнера, патрабавалася не менш як 10 мільярдаў рублёў: прыкладна 80% – сродкі інвестараў, астатнія 2 мільярды – з гарадскога бюджэту.

Сенатар Мікалай Чаргінец таксама адмовіўся назваць суму, у якую выліўся Дзень Рэспублікі. «Колькі будзе каштаваць – я не ведаю. У дзесяткі разоў меней, чым звычайна. Гэта звязана і з тым, што кожнае выкарыстанне цяжкой тэхнікі ў летні час на асфальтаваных дарогах не толькі вядзе за сабою выдаткі на эксплуатацыю тэхнікі, але і патрабуе рамонту дарог», – заявіў М.Чаргінец. Адмовіцца ад святкаванняў 3 ліпеня кіраўніцтва Беларусі, аднак, не магло – ветэраны Вялікай Айчыннай вайны і пенсіянеры не зразумелі б.

**Глеб ХМЯЛЬНІЦКІ**

# Улада кампрамісу

## *Хроніка прыняцця новага закону «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» увойдзе ў гісторыю беларускай заканатворчасці*

***Прыняцце новага закону апынулася ў апошнія дні ўва ўсіх на языку разам з пераследаваннем журналістаў і скандалам вакол Саюзу Беларусі і Расіі.***

Яшчэ ў мінулы аўторак усе пагаджаліся: хутчэй за ўсё, закон прымуць. У сераду стала вядома, што другое чытанне перанеслі на восень, а ў эфіры новага тэлебачання шмат хто з дэпутатаў адкрыта назваў законапраект «антыпратэстанцкім», недапрацаваным, няўзгодненым з беларускім заканадаўствам і г. д. Аднак у чацвер, у другой палове дня, раптам з'яўляецца інфармацыя, што Палата прадстаўнікоў прыняла законапраект у другім чытанні. Паартыкульнае галасаванне заняло ўсяго паўтары гадзіны – хуткасць, годная Кнігі рэкордаў Гінэса.

Насамрэч наступ на пратэстанцкія цэрквы – толькі частка агульнага працэсу ўціску грамадзянскіх правоў, які пачаўся ў Беларусі яшчэ ў 1996 г.

Тады быў нанесены наймацнейшы ўдар па апазіцыі, які фактычна знішчыў яе. З таго часу так і не акрэсліўся годны апанент сённяшняй улады. Далей – напад на прыватны бізнес, гучныя працэсы над дырэктарамі прадпрыемстваў і г. д. 1999 г. – прымусовая перарэгістрацыя няўрадавых і грамадскіх арганізацыяў; шмат якія з іх тут і спынілі сваё існаванне. Цяпер усе мы сведкі трэцяга ўдару – па цэрквах.

Прычына рознагалоссяў сярод беларускіх заканадаўцаў што да гэтага закону тлумачыцца апошнімі палітычнымі падзеямі. За ўсю постсавецкую гісторыю дачыненні Расіі і Беларусі ніколі не былі такія напружаныя, як у апошнія тыдні. І, асабліва на фоне пафаснай рыторыкі кіраўніка дзяржавы пра яднанне дзвюх краін, некаторыя беларускія чыноўнікі адразу пасля скандалу паспяшаліся выступіць з пазіцыяй незалежнасці.

Распрацоўшчыкі новага «Закону аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» не хаваюць, што ён неабходны дзеля ўкаранення праваслаўя як ідэалогіі. Навошта праваслаўе як ідэалогія? Дзеля лепшай інтэграцыі з Расіяй. А ў тым выпадку, калі «мухі асобна ад катлет», антыпратэстанцкі закон траціць усялякі сэнс. Сітуацыю ўскладніць яшчэ і тое, што новы закон фактычна адрэжа Беларусь ад Захаду. Гэта і стала прычынаю замяшання сярод парламентарыяў. Праўда, выявілася, што ў Савеце рэспублікі ёсць людзі, якія гэта разумеюць і якія здолелі хутка зарыентавацца ў сітуацыі. Закон не прынялі, адклалі да восені. Аднак чуткі пра тое, што прэзідэнт сваім указам зноў скліча Ніжнюю палату, упарта праточваюцца з палатных кулуараў.




З парушэннем, як выявілася, досыць хісткай раўнавагі расійскіх і беларускіх уладных структураў акрэсліліся супярэчнасці сярод беларускіх палітычных груповак. Гэта і стала прычынай унутрыпалатачнай важданіны, адлюстраваннем якой стала гульня са «свабодай сумлення».

Праект гэтага закону з'явіўся каля году назад у абставінах поўнай таемнасці. Паўлегальным чынам ён патрапіў у рукі прадстаўнікоў грамадскасці, але нідзе так і не быў надрукаваны. Першае, што звярнула на сябе ўвагу, – вельмі сур'ёзныя парушэнні правоў вернікаў у новым законапраекце ў параўнанні з законам, які дзейнічае ў Беларусі з 1992 г. На агульную думку, яго прыняцце непазбежна прывядзе да дэстабілізацыі ў грамадстве. Але, нягледзячы на гэта, адбылося тое, што адбылося.

Вернікі чакалі ад палаты сур'ёзнага, грунтоўнага разгляду гэтага закону, і рашэнне, якое было прынята цягам дзвюх гадзін, стала, мякка кажучы, неспадзяванкаю. На экстраннай сустрэчы кіраўнікі пратэстанцкіх канфесіяў пасля азнаямлення з рашэннем парламенту прынялі заяву, у якой выказваецца неўразуменне з той прычыны, што «многія прапановы і папраўкі практычна не былі ўлічаны, хоць усе прыхаджане цэркваў – выбарцы і законапаслухмяныя грамадзяне». Але горасныя эмоцыі наперадзе – яны пачнуцца, калі закон пачне дзейнічаць, а намаганні «працягнуць» яго былі такія моцныя, што вышэйшая ўлада не адмовіцца ад свайго жадання зрабіць падарунак РПЦ.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Усход – справа тонкая

**Муфтый Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь Ісмаіл Александровіч падтрымлівае палажэнні законапраекту «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях».**

Як ужо паведамлялася, гэты законапраект у другім чытанні быў прыняты Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу краіны, аднак Савет рэспублікі перанёс разгляд дакумента на восеньскую сесію.

У інтэрв'ю БелаПАНу І.Александровіч заявіў: «Нас задавальняюць асноўныя палажэнні законапраекту аб роўнасці ўсіх рэлігій перад законам. Праўда, не зусім добра, што вылучаецца праваслаўная канфесія, але яна здавён-даўна існуе ў Беларусі і гістарычна звязана з беларускім народам. Мы ж – нетутэйшыя, і разам з намі сюды толькі 600 гадоў таму прыйшоў іслам. Акрамя таго, мы складаем толькі 0,3 працэнта насельніцтва, а праваслаўных і каталікоў нашмат болей. Таму мы нават і прэтэндаваць не можам на такое становішча ў грамадстве, у якім знаходзіцца ў Беларусі экзархат Рускай праваслаўнай царквы».

На думку муфтыя, павелічэнне мінімальнай колькасці сябраў суполкі, неабходнай для яе рэгістрацыі, з 10 да 20 «створыць пэўныя цяжкасці, аднак не на сённяшняй стадыі дзейнасці канфесіі, бо зараз нам неабходна арганізаваць суполкі хаця б у тых гарадах Беларусі, дзе пражываюць па 500–600 прадстаўнікоў нацый і народнасцяў, якія традыцыйна вызнаюць іслам: нават у такіх паселішчах мы пакуль не можам стварыць мусульманскія суполкі. Да рэлігіі многія людзі яшчэ не дайшлі і дойдуць да яе, магчыма, у наступныя 10–15 гадоў».

**Марат ГАРАВЫ**

# *Зварот да Прэзідэнта РБ*

**Паважаны Аляксандр Рыгоравіч!**

Мы, кіраўнікі пратэстанцкіх цэркваў, звяртаемся да Вас, як Кіраўніка дзяржавы і гаранта Канстытуцыі, з настойлівай просьбай умяшацца ў працэс прыняцця Закону РБ «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях».

У нас выклікае здзіўленне і неўразуменне паспешлівасць, з якой распрацоўваўся і прымаецца гэты Закон. На наш погляд, прыняты ў другім чытанні Палатай прадстаўнікоў Закон «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях» негатыўна адаб'ецца на рэлігійнай сітуацыі ў краіне.

Ствараецца ўражанне, што камусьці вельмі хочацца без сур'ёзнага і ўзважанага абмеркавання, без уліку рэальнасці рэлігійнага становішча ў нашай рэспубліцы прыняць Закон, які прывядзе толькі да супрацьстаяння і канфліктаў.

У сувязі з вышэйпададзеным просім Вас разгледзець магчымасць нашай сустрэчы з мэтай абмеркавання з Вамі прапановаў пратэстанцкіх цэркваў па прадухіленні напружанасці ў сферы рэлігійных адносінаў.

**Ад Саюзу Евангельскіх Хрысціян-Баптыстаў у Рэспубліцы Беларусь**
**Біскуп Н. В. Сінкавец**
**Ад Саюзу Хрысціян Веры Евангельскай у Рэспубліцы Беларусь**
**Біскуп С. С. Хоміч**
**Ад Канферэнцыі Цэркваў Хрысціян Адвентыстаў Сёмага Дня ў Рэспубліцы Беларусь**
**Біскуп М.І. Астроўскі**
**Ад Аб'яднанняў Абшчын Хрысціян Поўнага Евангелля ў Рэспубліцы Беларусь**
**Прэзідэнт А. В. Саковіч**

**ЧАКАЮЦЬ ВЯРТАННЯ ВЕРНІКАМ**



**Мінск, плошча Свабоды. Былы каталіцкі касцёл і кляштар, аддадзеныя пад архіў і гарнізонную гаўптвахту**



**Вёска Каралішчавічы паблізу Мінску. У былым каталіцкім касцёле пасёння месціцца дом культуры**

# Варварскія праекты ў найстарэйшым лесе Еўропы

*Прадстаўнікі дэмакратычнай грамадскасці напярэдадні візіту генеральнага дырэктара UNESCO ў Мінск звярнуліся да міжнароднай супольнасці з трывогай за лёс Белавежскай пушчы.*

Сярод падпісантаў гэтага дакумента – пісьменніца Святлана Алексіевіч, карэнны жыхар Белавежскай пушчы, арнітолаг Уладзімір Дацкевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі, народны паэт Ніл Гілевіч, галоўны рэдактар газеты «Белавежская пушча» Валерый Дранчук, прафесар Леанід Лыч, пасол Беларусі ў ФРГ у 1992-94 гадах Пётр Садоўскі і прафесар Станіслаў Шушкевіч.



Фота У. Шлапака

У Звароце, у прыватнасці, зазначаецца: «Белавежская пушча як запаведны і сусветна прызнаны аб'ект прыроднай спадчыны ператварылася ў лесапрамысловы аб'ект, дзе таемна пашыраюцца камерцыйныя нарыхтоўкі драўніны, так званае валютнае паляванне, іншая сумнеўная дзейнасць. Рабаванне пушчы не спыняецца. Структуры дзяржаўнага апарату, якому падначалены нацыянальны парк «Белавежская пушча», гандлююць лясным дабром сусветнай каштоўнасці, каб папоўніць свой ценявы бюджэт, а міжнароднымі ўзнагародамі і тытуламі маскіруюць прагу штодзённай нажывы».

У якасці канкрэтнага прыкладу ў Звароце прыводзіцца факт размяшчэння ў 1999 годзе ў цэнтральнай сядзібе Белавежскай пушчы высокапрадукцыйнай лесапільні. «Гэты варварскі праект быў падмацаваны леташняй ініцыятывай адміністрацыі нацыянальнага парку ажыццявіць суцэльныя санітарныя высечкі ў 17 кварталах запаведнага лесу, што супярэчыць усім нормам паводзінаў у такім месцы, як Белавежская пушча», – пішацца ў Звароце. «Фінансавая дзейнасць нацыянальнага парку, – зазначаюць аўтары дакумента, – закрытая ад грамадства і пры сённяшняй палітычнай сітуацыі ў Беларусі цалкам бескантрольная... Грамадская думка ігнаруецца альбо дэмагагічна супакойваецца пры дапамозе дзяржаўных СМІ».

Вядома, што праблема Белавежскай пушчы, яе беларускай часткі – найперш праблема беларускага грамадства. Аднак, разам з тым, прадстаўнікі грамадскасці лічаць, што «цяперашняе становішча ў Белавежскай пушчы парушае ўмовы Міжнароднай канвенцыі па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны».

У прыватнасці, найбольш яўна не выконваюцца і парушаюцца артыкулы 4, 5, 27, якія датычаць канкрэтных задачаў нацыянальнай аховы спадчыны і інфармавання грамадскасці пра небяспекі, якія ёй пагражаюць.

## Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Не здзіўляе, а ўражвае, што большасць з аўтараў Звароту па глабальнай экалагічнай праблеме – палітыкі, літаратары, навукоўцы. Рух беларускіх «зялёных» сярод іх прадстаўляе Валерый Дранчук, журналіст, эколаг, галоўны рэдактар газеты «Белавежская пушча». Менавіта ён найчасцей наведваецца з Мінску ў запаведны лес, вандруе па ім на веласіпедзе і праз сустрэчы з патомнымі пушчанцамі складае хроніку варварства ў найстарэйшым лесе Еўропы.

**– Спадар Валерый, якім чынам утварылася кола падпісантаў і была дасягнутая ўзаемная дамоўленасць на крайне катэгарычныя вызначэнні, што ні волі, ні спосабу ўратаваць становішча ў пушчы не маюць цяперашнія ўлады?**

– Палітыкі Пётр Садоўскі і Станіслаў Шушкевіч яшчэ ў перыяд працы ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання сур'ёзна апекаваліся праблемамі Белавежжа. Садоўскі, у прыватнасці, асабіста сутыкаўся з фактамі варварства ў запаведніку. Прафесар Леанід Лыч шмат працуе на абарону беларускасці, і ён лічыць, што як і мова, так і прырода патрабуе найбольш плённай руплівасці ад патрыётаў. Святлана Алексіевіч падпісвалася пад папярэднім Зваротам у Еўрасаюз, і яе цвёрдая пазіцыя, што ў пушчы павінна быць дыдактыка, а не прамысловае лобі. Арнітолаг Уладзімір Дацкевіч – карэнны пушчанец, я лічу, што гэта звон пушчы, яе сумленне. Вучоны з вялікім досведам у адкрытую заяўляе пра незваротныя страты рэчышчаў, балотаў і іхных крылатых насельнікаў. Пазіцыі Ніла Гілевіча і Радзіма Гарэцкага добра вядомыя: крыніцы Жыцця пакідаюць Пушчу, бо двудушныя функцыянеры спяшаюцца пагрэць тут рукі. Увогуле, усе мы стаім на платформе грамадскага кантролю за выкананнем у нашай дзяржаве Міжнароднай канвенцыі па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны. Гэта цудоўны і мудры дакумент, прыняты еўрапейскай супольнасцю 30 гадоў таму, але ў Беларусі ён ніколі не быў апублікаваны, утойваецца ў папках чыноўнікаў.



**– Якім можа быць механізм перадачы Звароту ў структуры міжнароднай супольнасці?**

– Апроч таго тэксту, што пайшоў на наш унутраны інфармацыйны рынак, ёсць яшчэ асобны ліст персанальна да Каіціра Мацууры. Ён на англійскай мове, больш структураваны і ўтрымлівае дзве просьбы. Мы спадзяёмся, што пры сустрэчах у Беларусі з дзяржаўнымі асобамі генеральны дырэктар *UNESCO* закране праблемы Белавежскай пушчы на тых падставах, пра якія нагадвае наш Зварот. З-за таго, што ўзровень нацыянальнага захавання Белавежскай пушчы вельмі нізкі, патрабуецца дасканалая праверка экспертамі *UNESCO* на прадмет нашай прапановы – адмяніць статус помніка Сусветнай прыроднай спадчыны і занесці Белавежскую пушчу ў Сусветны спіс помнікаў, якія знаходзяцца пад пагрозаю. Мы можам даказаць кожнай камісіі, кожнаму эксперту, што гэта тая сусветная спадчына, той пракаветны гістарычны лес, якому пагражае небяспека.

**– А ці ёсць шанец атрымаць якую-небудзь «фортку» ў раскладзе візіту пана Каіціра Мацууры і асабіста пазнаёміць яго з набалелай праблемай у экалогіі Беларусі?**

– Безумоўна! Ад усіх падпісантаў Звароту падрыхтаваная папка з трыма аркушамі. Першы тэкст – беларускамоўны, які распаўсюджаны ў нашай краіне, другі – ліст на беларускай мове непасрэдна Каіціру Мацууры, трэці – англійскі варыянт гэтага асабістага паслання.

**– Зварот прадстаўнікоў дэмакратычнай грамадскасці Беларусі да *UNESCO* – гэта чарговы крок заступніцтва за найстарэйшы лес Еўропы. Што з'явіцца наступным?**

– Мы зараз слабейшыя за фінансава-прамысловае лобі, якое практычна на нішто звяло навуку ў пушчы і пераарыентавала працу ў запаведніку на нарыхтоўку драўніны. Але Беларусь з'яўляецца ўдзельніцай Міжнароднай канвенцыі па ахове сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны і павінна строга выконваць яе стандарты. Насамрэч у Белавежскай пушчы адбыўся поўны правал па трох канкрэтных пунктах. І калі мы бачым, што дзяржава не прытрымліваецца гэтых прынцыпаў, то лічым патрэбным інфармаваць высокія еўрапейскія інстанцыі. Зараз у стадыі фармавання грамадская ініцыятыва *Terra*-Канвенцыя, якая будзе апекавацца менавіта тым, як прыродаахоўныя канвенцыі і міжнародныя юрыдычныя дакументы знаходзяць сваю рэалізацыю ў Беларусі ў стыкоўцы з нацыянальнай заканатворчасцю.

**Гутарыў Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# *Трэці мемарандум Беларусі з UNESCO*

**8–10 ліпеня адбудзецца афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь Генеральнага дырэктара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый па пытаннях адукацыі, навукі і культуры (*UNESCO*) Каіціра Мацууры.**

Паводле інфармацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі, гэта ўжо трэці візіт у Беларусь кіраўніка *UNESCO* за перыяд з 1991 году. Вынікамі папярэдніх візітаў стала падпісанне двух мемарандумаў аб супрацоўніцтве Рэспублікі Беларусь з *UNESCO* па асноўных напрамках дзейнасці гэтай арганізацыі з улікам прыярытэтных пытанняў краіны. Сярод вынікаў супрацоўніцтва па іх выкананні МЗС адзначае рэалізацыю шэрагу праектаў гуманітарнага характару ў рамках праграмы «*UNESCO* – Чарнобыль», унясенне ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны замкавага комплексу «Мір», рэалізацыю каля 30 праектаў у галінах адукацыі, навукі і культуры пры фінансавай падтрымцы *UNESCO*.

Плануецца, што ў ходзе візіту Генеральны дырэктар *UNESCO* будзе прыняты прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам, а таксама сустрэнецца з намеснікам прэм'ер-міністра Уладзімірам Дражыным і кіраўнікамі шэрагу міністэрстваў.

Прадугледжваецца падпісанне двухбаковага мемарандуму аб супрацоўніцтве і далейшай дзейнасці ў галінах кампетэнцыі *UNESCO*. Сярод асноўных напрамкаў дзейнасці, адлюстраваных у тэксце мемарандуму, – рэалізацыя нацыянальнага плана дзеянняў па праграме *UNESCO* «Адукацыя для ўсіх»; распрацоўка і ажыццяўленне комплекснай стратэгіі ўстойлівага развіцця Палескага рэгіёну праз умацаванне супрацоўніцтва з навуковымі праграмамі *UNESCO*; садзейнічанне *UNESCO* ў распрацоўцы і ажыццяўленні канцэпцыі развіцця культурнага турызму і забеспячэння ўстойлівага сацыяльнага і эканамічнага развіцця на базе Мірскага замкавага комплексу; дзейнасць у рамках Міжурадавага камітэту па праграме «Інфармацыя для ўсіх» у мэтах умацавання нацыянальнага патэнцыялу і выкарыстання новых інфармацыйных і камунікацыйных тэхналогій.

Праграма візіту прадугледжвае таксама ўдзел Каіціра Мацууры ў міжнародным сімпозіуме «Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі», які арганізуецца пад эгідай *UNESCO* 9-10 ліпеня, у афіцыйнай цырымоніі адкрыцця Цэнтру інфармацыі і дакументацыі *UNESCO* і іншых міжнародных арганізацый у Нацыянальнай бібліятэцы, а таксама цырымоніі ўручэння пасведчання аб уключэнні замкавага комплексу «Мір» у Спіс сусветнай культурнай спадчыны.



## У спісе пасажыраў чацвёра грамадзян Беларусі

Паводле папярэдніх звестак, у спісе пасажыраў самалёта Ту-154 авіякампаніі «Башкірскія авіяліініі», які пацярпеў у ноч з панядзелка на аўторак катастрофу над Германіяй, значацца чацвёра грамадзян Рэспублікі Беларусь. Пра гэта паведаміла прэс-служба беларускага МЗС. Інфармацыю пра тое, што гэтыя грамадзяне Беларусі маглі знаходзіцца на борце авіялайнера, пацвярджаюць і іх знаёмыя, якія звярнуліся ў консульскае ўпраўленне беларускага МЗС.

Цяпер Міністэрства замежных спраў ажыццяўляе неабходныя ў гэтай сітуацыі дзеянні. Па даручэнні МЗС консул пасольства Беларусі ў ФРГ выехаў на месца катастрофы, а консульскі аддзел беларускага пасольства ў Маскве ўдакладняе звесткі пра магчымую наяўнасць сярод пасажыраў самалёта грамадзян Беларусі.

**БелаПАН**




## Авіякатастрофа ў небе Германіі

Загінулі 69 чалавек. З іх 52 дзяцей

У выніку начной катастрофы на поўдні Германіі самалёта Ту-154 «Башкірскіх авіяліній» загінулі ўсе 69 чалавек, што знаходзіліся на яго борце, у тым ліку 52 дзяцей у веку да 16 гадоў, паведамляе агенцтва.

Дзеці з Башкірыі павінны былі вылецець у Іспанію яшчэ ў суботу, але спазніліся на свой рэйс, прыехаўшы ў аэрапорт Шарамецьева замест Дамадзедава. У сувязі з гэтым авіякампанія «Башкірская авіяліініі» арганізавала для групы дадатковы рэйс.

Авіялайнер Ту-154 «Башкірскіх авіяліній» сутыкнуўся з грузавым самалётам «Боінг» кампаніі *DHL* з-за таго, што абедзве машыны па камандзе дыспетчара адначасова здзейснілі манеўр для зніжэння. Іспанскае інфармацыйнае агенцтва *EFE*, спасылаючыся на канфідэнцыйныя крыніцы, перадало, што «швейцарскі бок неафіцыйна паведаміў сваім калегам пра блытаніну, якая, мяркуючы па ўсім, выклікала трагедыю».



## Дыспетчары звялі два самалёты

Расійскі пілот Ту-154 атрымаў ад швейцарскага авіядыспетчара каманду на зніжэнне толькі за 50 секунд да скрыжавання траекторый палёту свайго самалёта і грузавога Боінга-757. Таксама стала вядома, што ў момант сутыкнення Ту-154 і Боінга-757 палётамі ў зоне адказнасці швейцарскага цэнтру кіравання паветраным рухам распараджаўся толькі адзін дыспетчар. Астатнія пайшлі на перапынак.

Як кажа прадстаўнік швейцарскай дыспетчарскай службы Антон Мааг, шчыльнасць руху ў зоне была даволі нізкая: у момант катастрофы ў сектары знаходзіліся толькі пяць самалётаў, улучна з ахвярамі сутыкнення.

# Самалёт Ту-154 — ладдзя Харона

### Катастрофы Ту-154 на тэрыторыі Расіі

*23 траўня 1991 году* пры заходзе на пасадку ў ленінградскім аэрапорце «Пулкава» пацярпеў крушэнне пасажырскі авіялайнер Ту-154, які ляцеў рэйсам Сухумі–Ленінград. Пры пасадцы самалёт рэзка знізіў хуткасць і ўдарыўся вобземлю. На борце знаходзіліся 164 пасажыры. Загінулі 12 чалавек, шпіталізаваны 34.

*20 ліпеня 1992 году* ў тбіліскім аэрапорце пацярпеў аварыю авіялайнер Ту-154, які выконваў рэйс па маршруце Тбілісі–Мінеральныя Воды з камерцыйным грузам на борце. У катастрофе загінулі 30 чалавек, сярод ахвяраў – сем чальцоў экіпажу і шэсць чалавек, якія суправаджалі груз. Астатнія ахвяры – жыхары паселішча Аляксееўка, на якое ўпаў самалёт.

*3 студзеня 1994 году* а 6:58 раніцы мясцовага часу ў Іркуцку разбіўся самалёт Ту-154, які выконваў рэйс па маршруце Іркуцк–Масква. Ту-154 упаў паблізу сяла Мамоны на жывёлагадоўчую ферму. Адзін работнік фермы загінуў, другі быў паранены. Экіпаж (дзевяць чалавек, у тым ліку чатыры бортправадніцы) і 111 пасажыраў (у іх ліку адно дзіця, 17 іншаземцаў – грамадзян Германіі, Кітаю, Аўстрыі, Індыі і Японіі) загінулі. На борце самалёта быў запас паліва на 5 гадзін палёту, у паветры самалёт знаходзіўся 12 хвілін.

*7 снежня 1995 году* на Далёкім Усходзе разбіўся самалёт Ту-154. Загінулі 96 чалавек. Самалёт вылецеў з Паўднёва-Сахалінску курсам на Хабараўск. У самалёце знаходзіліся 88 пасажыраў, у тым ліку пяць дзяцей, а таксама 8 чальцоў экіпажу. Абломкі разбітага Ту-154 былі знойдзены 18 снежня 1995 году за некалькі дзесяткаў кіламетраў ад узбярэжжа Татарскага праліва. На паседжанні ўрадавай камісіі ў лютым 1996 году было абвешчана, што прычынай гібелі самалёта стала наяўнасць на правым крыле падоўжнай трэшчыны каля 2 м даўжынёй, у сувязі з чым машына перавысіла дапушчальны крэн і сарвалася ў штопар.

*3 ліпеня 2001 году* пад Іркуцкам пры заходзе на пасадку за 20 км ад аэрапорта і за 5 км ад паселішча Бурдакоўка разбіўся пасажырскі самалёт Ту-154М, які выконваў рэйс Екацерынбург–Іркуцк–Уладзівасток. На борце лайнера знаходзіліся 136 пасажыраў, у тым ліку шасцёра дзяцей, і дзевяць чальцоў экіпажу. Адразу пасля падзення выбухнулі бакі з палівам, пасля чаго самалёт згарэў практычна датла. МНС Расіі пацвердзіла факт гібелі ўсіх пасажыраў і чальцоў экіпажу.

*4 кастрычніка 2001 году* у раёне Новарасійска ў выніку выбуху пацярпеў катастрофу і ўпаў у Чорнае мора за 185 кіламетраў ад Сочы пасажырскі самалёт авіякампаніі «Сібір» Ту-154, які ляцеў рэйсам Тэль-Авіў–Новасібірск. У катастрофе загінулі 78 чалавек, у тым ліку 51 грамадзянін Ізраілю. Згодна з высновамі дзяржаўнай камісіі па расследаванні прычын аварыі лайнера, Ту-154 быў збіты ракетаю С-200, запушчанай у ходзе вучэнняў супрацьпаветранай абароны Украіны.

### Катастрофы Ту-154 на тэрыторыі іншых краін

*6 чэрвеня 1994 году* каля гораду Сіань (КНР) пацярпеў катастрофу кітайскі пасажырскі лайнер Ту-154. Загінулі 160 чалавек.

*29 жніўня 1996 году* пры пасадцы ў нарвежскім аэрапорце Лонгйір на Шпіцбергене разбіўся расійскі самалёт Ту-154, на борце якога знаходзіўся зводны маскоўскі экіпаж і 131 пасажыр – шахцёры трэсту «Арктыквугаль», што вярталіся з адпачынку на руднікі, якія Расія арандуе ў Нарвегіі. Загінуў 141 чалавек – усе пасажыры і чальцы экіпажу. Вінаватымі прызнаны расійскія лётчыкі.

*15 снежня 1997 году* пры заходзе на пасадку ў аэрапорце Шарджа (Аб'яднаныя Арабскія Эміраты) выбухнуў самалёт Ту-154 таджыкскай авіякампаніі. З 86 пасажыраў самалёта, у асноўным турыстаў з Таджыкістану, ацалеў адзін чалавек.

*31 жніўня 1998 году* пры ўзлёце з аэрапорту эквадорскай сталіцы Кіта разбіўся самалёт Ту-154 кубінскай авіякампаніі «Кубана дэ авісьён», загінулі 70 чалавек.

*24 лютага 1999 году* ў Кітаі ў выніку катастрофы самалёту Ту-154, які належаў кітайскай рэгіянальнай авіякампаніі «Істэрн», загінулі 64 чалавекі.

*12 лютага 2002 году* ў выніку катастрофы самалёта Ту-154 у Іране загінулі 117 чалавек – 105 пасажыраў і 12 чальцоў экіпажу.



Самалёты Ту-154 складаюць аснову авіяпарка Расіі і краін СНД.

Усяго з 1986 году ў Расіі і СНД адбылося звыш 50 надзвычайных здарэнняў з самалётамі Ту-154 розных мадыфікацыяў.

Першы Ту-154 быў выпушчаны яшчэ ў 1971 годзе. Паводле ацэнак экспертаў, самалёты гэтага тыпу ўжо састарэлі і павінны быць заменены новай мадыфікацыяй – Ту-201.

Авіяцыйныя эксперты адзначаюць, што парк Ту-154 складае ў Расіі звыш 230 машын, а гэта 25–30% усіх сярэднемагістральных самалётаў.

На долю гэтага тыпу самалётаў прыпадае найбольшая частка рэйсаў унутры Расіі, а таксама паміж ёй і краінамі блізкага замежжа.

### Катастрофы над Германіяй

Адна з найбуйнейшых у гісторыі Германіі за апошнія 50 гадоў трагедыя разыгралася ў ноч на аўторак над Бадэнскім возерам на поўдні ФРГ. З 1950 году ў небе Федэратыўнай Рэспублікі адбылося 12 катастроф, у тым ліку і з Ту-154.

Сярод аб'ектаў катастрофаў два расійскія «Тупалевы» і два «Ільюшыны» савецкай вытворчасці.

*22 сакавіка 1952 году* пасажырскі лайнер галандскай кампаніі КЛМ тыпу «Дуглас Ды-Сі-6» пры ўзлёце з авіяпорту Франкфурта-на-Майне зачапіў вяршаліну дрэва. Трагедыя забрала жыцці 45 чалавек.

*14 кастрычніка 1953 году* ахвярамі крушэння самалёта «Канвэйр» бельгійскай кампаніі «Сабена» паблізу Кельстэрбаха (Гесэн) сталі 44 чалавекі.

*11 жніўня 1955 году* ў выніку сутыкнення над Шварцвальдам у ваколіцах Фройдэнштадта (Бадэн-Вюртэмберг) транспартных машын амерыканскіх ВПС «Сі-119» загінулі 66 чалавек.

*17 снежня 1960 году* самалёт амерыканскіх ВПС «Сі-138» пры наборы вышыні зачапляе купал царквы ў Мюнхене і падае побач з поўным людзей трамваем. 33 пасажыры трамвая і 19 пасажыраў транспартнай машыны згараюць зажыва.

*28 сакавіка 1961 году* над Грэфенбергам (Баварыя) цэрпіць крушэнне чэшскі лайнер Іл-18, які ляціць маршрутам Прага–Малі. Выбух рухавіка забірае жыцці 52 пасажыраў.

*28 студзеня 1966 году* лайнер «Люфтганзы» тыпу «Канвэйр» падае на ўзлётна-пасадачную паласу пры прызямленні ў аэрапорце Брэмена. Прычына катастрофы, якая забрала жыцці 446 чалавек, дагэтуль не высветлена.

*9 жніўня 1968 году* непаладкі ў электроніцы брытанскага лайнера «Візаўнт» прыводзяць да падзення на хуткасную магістраль паблізу Лангенбрука (Баварыя) лайнера, на борце якога знаходзіліся 48 турыстаў.

*14 жніўня 1972 году* ў ваколіцах Кенігс-Вустэрхаўзэна (Брандэнбург) у агні пажара, які ўспыхнуў у хваставой частцы самалёта Іл-62 кампаніі «Інтэрфлюг» (ГДР), гінуць 156 чалавек.

*11 верасня 1982 году* амерыканскі верталёт «Чынук», на борце якога знаходзіліся 46 спартоўцаў-парашутыстаў, падае на хуткасную трасу паблізу Мангейма (Бадэн-Вюртэмберг).

*12 снежня 1986 году* пры заходзе на пасадку ў берлінскі аэрапорт «Шэнефельд» цэрпіць крушэнне самалёт «Аэрафлоту» Ту-134. Трагедыя забірае жыцці 72 чалавек, у тым ліку 21 школьніка з Шверына.

*20 жніўня 1988 году* падчас авіяцыйнага шоу адбываецца сутыкненне трох італьянскіх знішчальнікаў у Рамштайне (Рэйнланд-Пфальц). Ахвярамі трагедыі робіцца 70 чалавек.

**NTV.RU**

# Юбілей П'ера Кардэна

*У гісторыі моды ёсць легендарныя постаці, якія яшчэ пры жыцці сталі своеасаблівымі сімваламі прыгожага і зменлівага мастацтва, якое завецца дызайнам моды. Адна з такіх славутасцяў – П'ер Кардэн.*

Будучы мадэльер нарадзіўся ў 1922 годзе ў невялікім мястэчку паблізу Венецыі, але вырас і атрымаў адукацыю ў Францыі. Ён быў малодшым дзіцем у шматдзетнай сям'і сярэдняга дастатку. Бацька ягоны быў вінаробам, і сын мог бы прадоўжыць сямейнае прадпрыемства. Але душа ў яго да вінаробства не ляжала: у 14 гадоў ён паступіў падмайстрам да краўца.



У 1945 годзе малады чалавек падаўся заваёўваць Парыж. І ўсяго праз год быў запрошаны да парыжскага куцюр'е Крыстыяна Дыёра як самы перспектыўны з мадэльераў-пачаткоўцаў. А праз пяць гадоў, у 1950-м, ён ужо адкрыў свой уласны Дом моды. Неўзабаве ў Парыжы расчыніліся дзверы і дзве фірмовыя крамы Кардэна: у 1954-м – «Ева», а ў 1957-м – «Адам». У 1957 годзе Кардэн стаў сябрам Сіндыкату высокай моды і прадставіў поўную калекцыю адзення з 120 мадэляў, якасць, вышуканасць і арыгінальнасць якой прывабіла самую патрабавальную публіку.

Вось ужо больш як 50 гадоў французскі куцюр'е застаецца адным з самых славутых людзей свету. За гэты час яму ўдалося стварыць цэлую імперыю, дзе працуюць стылісты, дызайнеры, краўцы, манекеншчыцы. Студыі Кардэна выдаюць да 20 тысяч мадэляў адзення, абутку і аксесуараў штогод. На заводах, якія выпускаюць прадукцыю з маркаю *Pierre Cardin*, па ўсім свеце працуюць каля 200 тыс. чалавек.

Рэвалюцыянер сусветнай моды, Кардэн запатэнтаваў больш за 500 дызайнерскіх вынаходак не толькі ў галіне мадэлявання адзення, але і ў архітэктуры, на транспарце, у сферы рэкламы тавараў і ўсялякіх відовішчаў. Часопіс *Time* назваў яго «хітрамудрым фанатыкам», які патрапіў напісаць сваё імя даслоўна на ўсім, «што можна прыбіць цвікамі, прыклеіць, прышыць, прывінціць, прывязаць, растыражаваць ці разліць па бутэльках, зачыніць, адчыніць і спажыць». Ягонае імя як гарантыю якасці носяць 800 розных вырабаў, 8 тысяч крамаў, два тэатры, рэстараны, гадзіннікі, парфума, цыгарэты, парасоны, папругі, сумачкі, абліцовачная плітка і шмат што яшчэ. 160 млн. людзей на ўсіх кантынентах набываюць прадукцыю з маркаю *Pierre Cardin*.

На сённяшні дзень гадавы абарот кампаніі складае прыкладна 12 млрд. даляраў – гэта найвышэйшае ў свеце дасягненне сярод стылістаў. Акрамя таго, Кардэн мае свой тэатральны калектыў. Шмат гадоў назад ён сабраў тэатральную трупу, якая памалу вырасла ў прафесійны тэатр.

Кардэн – уладальнік 24 прэстыжных міжнародных і французскіх узнагародаў. У 1974 годзе ён стаў кавалерам ордэна Ганаровага легіёну, а ў 1988-м – італьянскага ордэна «За заслугі» і найвышэйшай узнагароды Ватыкану «Святыя скарбы». У 1985 годзе Кардэн быў абраны ў Французскую акадэмію прыгожых мастацтваў і стаў «неўміручым», як называюць у Францыі ганаровых акадэмікаў.



**Чылі, Сант'яга. 4 000 голых на зімовай плошчы – відовішча не абы-якое, тым болей што цяпер у паўднёвым паўшар'і якраз халады. Але замаразкі не збянтэжылі жыхароў чылійскай сталіцы, што адгукнуліся на заклік фатографа папазіраваць для маштабнага групавога «ню»**

**ВОПЫТ ЕЎРОПЫ**

# Альтэрнатыўная служба ў замежных краінах

**Права на адмову ад абавязковай ваеннай службы са зброяй па духоўных, маральных і іншых матывах лічыцца абавязковым атрыбутам дзяржавы з развітай дэмакратыяй і ўнесена ў канстытуцыі большыні еўрапейскіх краін. Гэта – вынік працяглага змагання антываенных арганізацыяў, але заканадаўча такая норма пачала замацоўвацца толькі ў 50–60-я гады XX ст.**

Гісторыя «адмаўленства» ад нясення ваеннай службы з маральных меркаванняў налічвае шмат вякоў. Так, на заранку хрысціянства яго прыхільнікі не бралі ў рукі зброі і не ўдзельнічалі ў ваенных паходах. Толькі пасля таго як у 313 г. н.э. хрысціянства было абвешчана пануючаю рэлігіяй у Рымскай імперыі, ваенная служба пачала лічыцца ўсталяваным ад Бога святым абавязкам. У XVIII ст. меніты дамагліся права адмовы ад ваеннай службы са зброяй, атрымаўшы ў 1780 г. ад Фрыдрыха Вялікага «Ганаровы прывілей для супольнасці менанітаў у Каралеўстве Прусія», у якім згадвалася пра іх «вызваленне ад ваеннай службы навечна». У найноўшай гісторыі першыя заканадаўчыя акты аб праве адмовы ад ваеннай службы са зброяй з ідэйных меркаванняў былі прыняты падчас першай сусветнай вайны ў ЗША і Вялікабрытаніі.

На сённяшні дзень прыкладам найбольш паспяховага вырашэння праблемы альтэрнатыўнай службы могуць стаць краіны *NATO*, у якіх захаваўся ўсеагульны вайсковы абавязак.

Замежныя спецыялісты лічаць, што ўвядзенне альтэрнатыўнай службы магчыма пры наяўнасці ў краіне шэрагу ўмоваў: поўнае ці частковае камплектаванне ўзброеных сілаў на аснове закону пра вайсковую павіннасць, лішак прызыўнога кантынгенту ці немагчымасць яго эфектыўнага выкарыстання ў інтарэсах узброеных сіл, высокі ўзровень законнасці і праваапарадку, наяўнасць моцных пацыфісцкіх настрояў. Наша краіна не зусім адпавядае гэтым умовам, асабліва ў частцы, якая тычыцца лішку прызыўнога кантынгенту і высокага ўзроўню правапарадку ў краіне.

Аналіз замежнага заканадаўства пра альтэрнатыўную службу паказвае, што поруч з нацыянальнай спецыфікай існуюць і агульныя рысы, характэрныя для ўсіх краін. У прыватнасці, паўсюль прадугледжваецца добраахвотны і абгрунтаваны выбар прызыўнікамі цывільнай службы. За імі захоўваецца статус вайскоўца, а тэрмін альтэрнатыўнай службы залічваецца ў тэрмін сапраўднай вайсковай службы. Праца прызыўнікоў выкарыстоўваецца, як правіла, у дзяржаўных сферах, якія церпяць ад дэфіцыту працоўнай сілы. І, нарэшце, адзін з асноўных прынцыпаў альтэрнатыўнай службы: яе ўмовы паводле напружанасці павінны быць супараўнальныя з умовамі вайсковай службы.

У адпаведнасці з заканадаўствам большыні краін, афіцыйная адмова ад нясення ваеннай службы павінна быць аргументавана перакананнямі рэлігійнага, палітычнага ці этычнага характару. У Турцыі, напрыклад, дзе магчымасць альтэрнатыўнай службы не замацавана заканадаўча, у сувязі з лішкам прызыўнога кантынгенту афіцыйна існуе сістэма водкупу ад ваеннай службы. Памер узносу складае 3,5 тыс. амерыканскіх даляраў, а для турэцкіх грамадзян, што працуюць за мяжой, – 8,5 тыс. Якраз гэтае права скарыстаў вядомы турэцкі спявак Таркан, калі два гады назад улады спрабавалі прызваць яго на службу ўва ўзброеныя сілы.

Вось жа у замежных краінах альтэрнатыўная служба – неад'емная частка дэмакратычнага ладу жыцця. Разам з тым дзяржава клапоціцца пра абараназдольнасць дзяржавы і абмяжоўвае альтэрнатыўную службу шэрагам жорсткіх умоваў, у выніку чаго яна паводле напружанасці і выдаткаў працы набліжаецца да ваеннай службы.

**Алег БЕЛАСЛУДЦАЎ**

# *Не пашчасціла выслізнуць*

**Юрый Буданаў адной нагой ужо быў на волі**

У панядзелак на судовым паседжанні ў Растове было абвешчана, што Сяргей Назараў, дзяржаўны абвінаваўца на працэсе Буданава, загадам кіраўніка Мінабароны Сяргея Іванова звольнены ў запас «па стане здароўя». Яго замяніў памочнік Галоўнага ваеннага пракурора Расіі Уладзімір Міліванаў. Які адразу ж заявіў *«пра змену пазіцыі дзяржабвінавачання ў частцы ацэнкі дзеянняў падсуднага»*.

Ранейшая пазіцыя дзяржабвінавачання была выказана пракурорам 18 чэрвеня. Яна палягала ў тым, што на момант забойства 18-гадовай чачэнкі Эльзы Кунгаевай у ноч на 27 сакавіка 2000 году Юрый Буданаў быў у стане бессвядомасці і такім чынам, як заявіў Сяргей Назараў, абвінавачанне ў забойстве з яго трэба зняць. А за «перавышэнне службовых паўнамоцтваў» (незаконнае выкраданне Кунгаевай з яе дома ў сяле Тангі-Чу) даць яму тры гады. Але тады сядзець Буданаву не давялося б: як кавалер двух ордэнаў Мужнасці, ён падпадаў пад гэтым артыкуле пад амністыю.

Ужо 20 чэрвеня Генеральны пракурор Расіі Уладзімір Усцінаў заявіў, што яго ведамства схіляецца да таго, каб не згадзіцца *«з довадамі паўторнай экспертызы, якая прызнала Буданава ў стане бессвядомасці ў момант учынення ім забойства»*. Тым не менш, гаворка нібыта ішла толькі аб пратэсце Генпракуратуры на фактычна апраўдальны прысуд Буданаву, які заяўленая Назаравым пазіцыя на той момант зрабіла непазбежным. Толькі 1 ліпеня стала вядома, што ў той самы дзень – 20 чэрвеня – кіраўнік Мінабароны ўжо адправіў пракурора Назарава ў запас.

А 1 чэрвеня ў дзеянне ўступіў новы Крымінальна-працэсуальны кодэкс. Перш-наперш на паседжанні ў панядзелак пракурор Міліванаў спаслаўся на артыкул 246 (раздзел 4) гэтага кодэксу, які кажа: *«Калі ў ходзе судовага разбору пракурор выявіць, што дадзеныя дакументы на гэтапе кіраўнік ведамства...*



*...віцца немагчымасць далейшага ўдзелу пракурора, то ён можа быць заменены. Пракурору, які нанава ўступіў у судовы разбор, суд дае час для азнаямлення з матэрыяламі крымінальнай справы і падрыхтоўкі да ўдзелу ў судовым разборы. Паводле хадайніцтва пракурора суд можа паўтарыць допыты сведкаў, пацярпелых, экспертаў або іншыя судовыя дзеянні»*.

Пасля таго як суддзя 1 ліпеня даў Юрыю Буданаву апошняе слова (ад якога той адмовіўся), паседжанне было перапынена да аўторка. Адвакаты Буданава спярша заявілі, што 2 ліпеня будзе вынесены прысуд, але потым прызналі: перапынак можа працягвацца і даўжэй, калі запыт новага пракурора Міліванава будзе задаволены. Буданаў, паводле словаў адвакатаў, «вельмі прыгнечаны».

Прыгнечаны, відавочна, не толькі таму, што пракурор Міліванаў, магчыма, зноў запатрабуе прызнаць яго вінаватым у забойстве. У сваёй «апраўдальнай» прамове 18 чэрвеня Сяргей Назараў згадаў і пра сведчанні прычыннасці Буданава да забойстваў яшчэ чатырох жыхароў Чачні. *«Гэтыя звесткі, несумненна, цікавыя і патрабуюць праверкі*, – заявіў Назараў, – *але не ў рамках цяперашняга працэсу»*. Новы пракурор можа не пагадзіцца і з гэтым.

**Vesti.ru**

# Янка Купала: міфы і рэальнасць

*Міфы, якімі абкружана жыццё вялікіх людзей, часта далёкія ад праўды*

***Пра беларускую класічную літаратуру і яе пачынальніка Янку Купалу за стагоддзе склалася шмат міфаў. У тым ліку і банальных, створаных на падставе некампетэнтнасці альбо тэндэнцыйнасці.***

## Міф пра паходжанне з асяроддзя беззямельнага сялянства

Тут «забывалі» шляхецкае паходжанне роду Луцэвічаў, праўда, не прызнанага ўладаю з прычын палітычных. Міф пра «беднага селяніна» Купалу (тут змешвалі паэта з яго лірычным героем) неяк «сам сабою» экстрапаляваўся на ўсю беларускую класічную літаратуру. Занадта доўга беларусаў ды іхнюю культуру «ў лапці абувалі». Між тым усе яе пачынальнікі і першыя класікі – ад Яна Чачота, Яна Баршчэўскага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча да Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы, Цёткі (Алаізы Пашкевіч) – былі выхадцы з каталіцкай шляхты, рэдка – з каталіцкага сялянства.

Нашаніўская публіцыстыка (1906–1915 гг.), а пазней савецкая навука моцна перабольшвалі паланізацыю беларускай шляхты. Паводле ўсерасійскага перапісу насельніцтва 1897 г., каля 40% спадчыннай шляхты Беларусі называлі сваёй роднай мовай беларускую. Пачынальнікі новабеларускай літаратуры добра ведалі мову, хоць і не вывучалі яе ў польскай і рускай школах, не кажучы ўжо пра імператарскія універсітэты.

Небагатая шляхта настолькі наблізілася да сялянства, што стала духоўным лідэрам нацыянальнага адраджэння.

Быць шляхецкім паэтам пад бальшавіцкай дыктатурай здавалася не толькі нонсэнсам, але і небяспечным прэцэдэнтам.

Пры жыцці Купала так і не апублікаваў свае вершы на польскай мове. А ён жа з іх пачынаў сваю літаратурную вучобу. Упершыню ў Беларусі яны апублікаваны ў «Дадатку» да першага тома Збору твораў паэта (1972 г.).

## Міф «пра беднага селяніна-паэта»

Неяк «само сабой» разумелася, што такі паэт піша папросту, нават «прымітыўна», спявае сумныя мелодыі, плаксіва скардзіцца на цяжкую долю беларуса-мужыка. Тут, мабыць, таксама не абышлося без патурання самога паэта.

Да міфу аб прастаце беларускай літаратуры прыклаў руку Максім Горкі. Пазнаёміўшыся з праграмным нацыянальна-адраджэнскім вершам Купалы «А хто там ідзе?», ён пісаў у лісце да украінскага пісьменніка М.Кацюбінскага (1910, 11 лістапада): «У Беларусі ёсць два паэты: Якуб Колас і Янка Купала – вельмі цікавыя хлопцы! Так прымітыўна-проста пішуць, так ласкава, сумна, шчыра. Нашым бы трошку такіх якасцей!» Сапраўды, сярод «нашаніўскіх» публікацыяў і ў першым паэтычным зборніку «Жалейка» (1908) у Купалы ёсць простыя вершы. Але простымі, прымітыўнымі былі (і, на жаль, засталіся часам на ўзроўні школьнай адукацыі) тлумачэнні Купалавай ранняй паэзіі: яе разумелі спрошчана, як натурныя замалёўкі вясковага жыцця. А між тым нават яго ранняя паэзія грунтавалася на біблейскіх, хрысціянскіх і антычных архетыпах.

Максім Горкі тады захапляўся паэтамі-самавукамі, рыхтаваў зборнік іх твораў і, верагодна, залічыў да іх пачынальнікаў беларускай класічнай літаратуры. Так узнікла яшчэ адна легенда: быццам бы Янка Купала – паэт-самавук, не далучаны да вышэйшай агульнай і літаратурнай адукацыі. Між тым ён скончыў чатырохгадовыя курсы А. Чарняева ў Пецярбургу (1909–1913), прыватны універсітэт Шаняўскага ў Маскве (1916), дзе выкладалі гуманітарныя навукі выдатныя рускія вучоныя. Апрача таго, у Купалы быў асабісты настаўнік – прафесар Пецярбургскай каталіцкай акадэміі, духоўны правадыр беларускай адраджэнскай інтэлігенцыі Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Меў Купала-юнак яшчэ аднаго настаўніка, бадай што прафесара ў сваім родзе – удзельніка паўстання 1863 г. Зыгмунта Чаховіча-Ляхвіцкага (1831–1907), сябра К.Каліноўскага.



Два сябры. Янка Купала і Вацлаў Ластоўскі ў рэдакцыі «Нашай нівы»

Ёсць два бакі мастацкага прафесіяналізму – суб'ектыўны і аб'ектыўны. Празмерная беларуская, сялянская па сваёй прыродзе сціпласць не дазваляла пачынальнікам і нават першым класікам нашай паэзіі называцца прафесійнымі літаратарамі.

Сёння, як і сто гадоў таму назад, бытуе міф, быццам бы нацыянальныя культуры падзяляюцца на «вялікія», універсальныя, і культуры «малыя», рэгіянальныя, субкультуры, альбо падгалоскі сусветных культураў. Да праяваў лакальных культураў некалі залічылі беларускую мову і літаратуру. Гэты псеўданавуковы погляд сёння не вельмі афішуецца, але яго трымаюць «на памяць» некампетэнтныя ў беларусістыцы «ўсходнія» і «заходнія» вучоныя.

Догмай савецкай філалагічнай кампаратывістыкі стаўся палітызаваны прарасійскі ўхіл: насуперак гістарычным рэаліям, якія сведчылі «польскі вектар» арыентацыі нашай літаратуры XIX – пачатку XX ст., яе штучна «падцягвалі» пад рускі ранжыр. Забываліся напрацоўкі беларускіх літаратуразнаўцаў 20-х гадоў, якія пачыналі даследаваць імпрэсіяністкія і сімвалічныя плыні ў нашай літаратурнай класіцы. Забывалася згадка М. Багдановіча ў нарысе «Забыты шлях» (1915, апублікаваны ў 1918 г.): «З нашых вершаў можна было б лёгка зрабіць «кароткі паўтарыцельны курс» еўрапейскіх пісьменніцкіх напрамкаў апошняга веку. Сентыменталізм, рамантызм, рэалізм і натуралізм, урэшце, мадэрнізм – усё гэта, іншы раз нават у іх рожных кірунках, адбіла наша паэзія, праўда, найчасцей бегла, няпоўна, але ўсё ж ткі адбіла». Да гэтых традыцыяў вярнуліся даследчыкі апошняга дзесяцігоддзя.

## Міф пра Янку Купалу як савецкага бязбожніка

Вульгарна-сацыялагічная крытыка спачатку гнала паэта, а пасля, кіруючыся прагматычнымі мэтамі, захацела перайначыць яго творчасць на свой капыл. А для гэтага праводзілася «абязбожванне» класічнай літаратурнай спадчыны, яе дэхрысціянізацыя, папросту кажучы – фальсіфікацыя. Жывых пісьменнікаў прымушалі ісці на атэістычную самацэнзуру, а за тых, хто адышоў у вечнасць, рабілі гэта ідэалагічныя рэдактары.

Між тым экзістэнцыяльна (у плане перажывання быцця) паэзія Янкі Купалы хрысціянская. Хрысціянскі змест яго творчасці – асобная даследчая праблема. Але дастаткова ўчытацца хоць бы ў ранні верш Купалы «Я бачыў...», каб пераканацца ў хрысціянскім гуманізме купалаўскай паэтычнай школы. Пра хрысціянскую духоўнасць Купалы кажуць біблейска-евангельскія архетыпы і матывы яго творчасці. Таксама – фрагменты з ягоных лістоў, сяброўства з пачынальнікамі беларускага каталіцкага адраджэння – паэтам Андрэем Зязюлем (А.Астрамовічам) і лідэрам гэтага руху Фабіянам Абрантовічам. Часам спасылаюцца на багаборчыя матывы ў творчасці Янкі Купалы. Але яны ёсць нават у Бібліі, у біблейскай «Кнізе Іова». Ёсць у паэта і матывы богапакінутасці ягонай бацькаўшчыны, укрыжаванай каланізатарамі. Тут варта спаслацца на апошнія словы ўкрыжаванага заснавальніка Хрысціянскай Царквы: «Божа, мой Божа, чаму Ты пакінуў Мяне?».

## Міф, што Купала добраахвотна прыслугоўваў дыктатуры

Янка Купала поруч з Якубам Коласам, Максімам Гарэцкім у сусветнай культуры прэзентуе беларускі народ і яго нацыянальную літаратуру. Яму і яго паслядоўнікам у XX стагоддзі выпаў трагічны лёс – нязнаны ў гісторыі па сваёй жорсткасці рэпрэсіі ў 1930-х гадах. Навуковае даследаванне супярэчнасцяў развіцця беларускай савецкай літаратуры – гэта асобная тэарэтычная праблема. Але дастаткова прывесці толькі адзін трагічны эпізод з літаратурнага жыцця 1930 году, каб пераканацца ў памылковасці такіх агульных абвінавачанняў.

*Яго настаўнікам быў удзельнік паўстання 1863 г. Зыгмунт Чаховіч-Ляхвіцкі (1831–1907), сябра К.Каліноўскага*

Часопіс «Спадчына» ў 1990 годзе апублікаваў сакрэтную запіску першага сакратара ЦК КП(б)Б Канстанціна Гая ў Палітбюро ЦК ВКП(б). У ёй адлюстравана пякельная работа бальшавікоў па знішчэнні і здушэнні беларускай нацыянальнай эліты, у першую чаргу – аўтарытэтных пісьменнікаў і вучоных. Прывяду гэты дакумент скарочана, у арыгінальным тэксце.

*«Минск, 21.11.1930 г. Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября, утром покушался на самоубийство Янка Купала – народный поэт Белоруссии... Янка Купала входил в руководящий центр* «Саюза вызвалення Беларусі», *как о том свидетельствуют показания Лёсика, Некрашевича и других. Янка Купала являлся идейным центром национально-демократической контрреволюции, что нашло отражение в его творчестве. Наряду с произведениями вполне советскими, у него имеются стихотворения и кулацкого, и прямо контрреволюционного содержания. Приглашенный для переговоров в ГПУ, Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой-либо контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти навстречу нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей – участников и руководителей СВБ... Всё это рассматривается нами как протест против нашей политики борьбы с национал-демократизмом. Мы решили не требовать от Я. Купалы признания участия в Союзе вызволения Белоруссии и сосредоточить свои усилия на требовании выступить с* ***открытым осуждением контрреволюционной деятельности группы белорусских интеллигентов, арестованных по делу СВБ***» (падкрэслена мною – **У. К.**).

Такім чынам, для *«обработки»* паэта *«сосредоточила свои усилия»* ўся бальшавіцкая наменклатура Мінску, увесь апарат ГПУ, была мабілізавана *«общественность»*. Псіхалагічны націск (апрача дзейснага фізічнага ўздзеяння) быў да банальнасці просты, але і хітры: прымусіць арыштаваных дзеячаў беларускай навукі і культуры (Лёсіка, Некрашэвіча ды іншых) пад жорсткім катаваннем «прызнацца» і «накапаць» на Купалу, а пасля падсунуць сфабрыкаваныя фальшыўкі пякельна змучанаму паэту і пратрымаць яго ў ГПУ да той пары, пакуль ён не падпіша падрыхтаванай агентамі ГПУ паперы.

14 снежня 1930 году (праз сорак дзён пасля першага этапу «псіхалагічнай апрацоўкі» паэта) газета «Звязда» надрукавала гэтую фальшыўку пад назваю «Адкрыты ліст Я. Купалы», напісаны ў стылі стандартных даносаў паклёпніцкай «крытыкі» Лукаша Бэндэ. Янку Купалу гэтыя сорак дзён каштавалі здароўя, урэшце самога жыцця.

**Уладзімір КОНАН,**
**доктар філасофіі**

ПАМЯТКА ДЗЁН

# У Пінкавічы, да Якуба Коласа!

*Як залатыя пацеркі, рассыпаныя па тэрыторыі нашай краіны прыродныя і рукатворныя слыннасці, прыватныя калекцыі, музейныя экспазіцыі, хатнія майстэрні.*

Няма ўжо нават прамежка паміж горадам і найбліжэйшай ад яго вёскай. Пінск увабраў у сябе Пінкавічы, дзе ў адным з першых завулкаў месціцца ўтульны будынак літаратурнага музею, раней – школы, дзе настаўнічаў сам Якуб Колас.

За будынак, які ўсё гэтаксама, як некалі пры настаўніку Андрэю Лабановічу, «прыветна бялее шырока раскрытымі акенцамі», адбылася не жартоўная барацьба пры пераездзе Пінкавіцкай СШ у новы будынак. Набыць драўляны дом у два канцы ад ганку з паветкаю над ім прасіліся многія заможныя купцы, і аднаму цяплічніку са Століна ўдалося згаварыцца з мясцовым начальствам. Добрыя грошы не тое каб засланялі ад вачэй адукаваных чыноўнікаў памяць пра народнага песняра, але дапамагалі знаходзіць апраўданні. У трохпавярховай камяніцы новай школы планавалася аддаць пад музей Коласа прасторнае памяшканне і тым самым пазбыцца надалей клопату з утрыманнем на балансе аддзелу адукацыі драўлянага асабняка з пладовым садком на прысядзібнай тэрыторыі. Так бы, напэўна, і сталася, але на парозе быў 1992 год, набліжаліся юбілейныя 110-я ўгодкі песняра, і збіральнік музейнай экспазіцыі настаўнік Іван Калоша ўзняў літаратурную грамадскасць Берасцейшчыны на супраціў прыватызацыі пакояў, якія памятаюць крокі Коласа. Былую школу ўдалося адстаяць для новага музею – першага на беларускім Палессі.



Захаваны домік Балевіча, дзе кватаравала маладая сям'я Якуба і Марыі

Зараз музей у Пінкавічах – не чыста «коласаўскі». У ім – гісторыя вёскі, побыт пінкавіцкіх сялянаў, іхныя клопаты, захапленні. Асобны стэнд – пра мінулую вайну. А ў вялікім мемарыяльным пакоі з рэчамі, рукапісамі, фотаздымкамі і кнігамі так і цягне ўявіць сабе хціваватага дзяка Бацяноўскага, які тайком заглядвае ў вокны да настаўніка, і жывую, неспакойную Вольгу Андросаву, і разважлівага Аксёна Каля. Уся экспазіцыя цяпер абноўленая і нагадвае, што ў Пінкавічы Якуб Колас прыехаў у 1904 годзе з вёскі Люсіна Мінскага павету (цяпер Ганцавіцкі раён). Як ён сам узгадваў: «У 1905 годзе я быў ужо заўзятым ворагам самадзяржаўя і ў гэтым накірунку вёў работу». Якраз за сваё бунтарства Колас быў арыштаваны і толькі пасля турмы ў верасні 1911 году зноў вярнуўся на Палессе, жыў у Лунінцы ў свайго таварыша Філіповіча, навучаючы яго вучняў, дзяцей чыгуначнікаў. У 1912 годзе Канстанцін Міцкевіч атрымаў пасведчанне аб добранадзейнасці і быў прызначаны настаўнікам – спачатку ў вёску Купяцічы, а потым у трэцяе мужчынскае вучылішча Пінску. Малады настаўнік кватараваў на вуліцы Водаправоднай у доме фельчара чыгуначнай станцыі Арсена Балевіча. Здарылася так, што тут мела свой пакой і маладая настаўніца Марыя Каменская. Іх знаёмства перарасло ў сяброўства. Вясной 1913 году Якуб зрабіў прапанову Марыі і папрасіў у пісьме да бацькі і маці бласлаўлення. 13 чэрвеня ў Пінску адбылося вянчанне, пра што сведчыць рэгістрацыйны запіс святара А.Рынкевіча. Вяселле было ў доме Балевічаў. У наступным годзе нарадзіўся сын Даніла. Калі пачалася першая сусветная вайна, Міцкевічы выехалі ў Магілёўскую губерню, а ўвосень 1915 году Якуб Колас быў мабілізаваны ў армію.

**Вячаслаў КУЛІКОЎСКІ**

# *Масква і Купала*

Калі ў беларускай сталіцы гатэль «Мінск» рэканструююць, ператвараючы яго ў чатырохзоркавы, то ў расійскай сталіцы гатэль «Масква» будзе знесены.



Спачатку планавалася правесці тут рэканструкцыю. Аднак архітэктары палічылі, што гэта няслушна, бо рэканструкцыя вымагае дужа вялікіх выдаткаў на ўмацаванне фундаменту: у цэнтры Масквы, дзе знаходзіцца гатэль, складаная геадэзія і багата падземных збудаванняў. У выніку гасцініцу «Масква» знясуць, а на яе месцы ўзвядуць новую. Праўда, старое архітэктурнае аблічча будзе захавана.

Вы спытаеце, якім чынам гэта тычыцца нас, беларусаў? У гатэлі «Масква» ў вайну жылі беларускія бежанцы – пісьменнікі, паэты. Тамтэйшы лесвічны пралёт – месца, дзе загінуў Янка Купала. Менавіта каля гэтага маскоўскага гатэлю мог бы быць пастаўлены помнік нашаму паэту. Праўда, пакуль што ў маскоўскай мэрыі кажуць пра Міўскую плошчу, насупраць колішняга Народнага ўніверсітэту імя Шаняўскага (цяперашні Расійскі гуманітарны ўніверсітэт), дзе Купала вучыўся. Беларускія чыноўнікі не пярэчаць і пра варыянт узвядзення помніка Купалу каля гатэлю «Масква» пакуль не заікаюцца. Гэта зрабіць яшчэ не позна, бо хоць творчы конкурс па стварэнні помніка Міністэрства культуры ўжо правяло, дата яго ўстаноўкі ў расійскай сталіцы – за туманам. Вось жа, не выключана, што варыянт пасадкі помніка каля гатэлю «Масква» – самы годны і слушны для ўшанавання памяці песняра, бо ўсё ж гэта цэнтр гораду – яшчэ ўсплыве, таму добра было б, каб гатэль хоць вонкава выглядаў такім, якім яго бачыў беларускі паэт. Гэта было б годнае ўшанаванне памяці класіка беларускай літаратуры.

Дамагацца гэтага, здаецца, куды важней, чымсьці ў часе зносу гатэлю пільнаваць за маскоўскімі будаўнікамі, каб які брыгадзір не звёз сабе на лецішча ці проста не раструшчыў пліты на гатэльнай падлозе, куды 28 чэрвеня 1942 году ўпаў Янка Купала. Менавіта гэта прапануе рабіць у «Нашай ніве» Сяргей Навумчык, каб тыя пліты перацягнуць у Літаратурны музей Купалы і ператварыць іх у музейны экспанат. Але ж для нас увесь гэты гатэль – жывая гісторыя.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**



Былы Дом творчасці Саюзу пісьменнікаў у Каралішчавічах каля Мінску. Тут багата часу правёў Якуб Колас, 120-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем сёлета. Мемарыяльны будынак быў прададзены напрыканцы 1990-ых нейкай фірме. У Каралішчавічах можна было б зрабіць нешта накшталт музейнага літаратуразнаўчага комплексу, бо з ім звязаны працы многіх слынных беларускія літаратары

НАГОДА ЎСПОМНІЦЬ

**1841.** Адкрылася першае ў свеце турыстычнае агенцтва.

**1857.** Нарадзілася Клара Цэткін, заснавальніца камуністычнай партыі Германіі і ініцыятарка святкавання Міжнароднага жаночага дня. Дзявочае яе прозвішча – Клара Эйснер. Цэткін яна стала, калі выйшла замуж за расейскага студэнта Восіпа Цэткіна.

**1867.** Нарадзіўся Эндру Дуглас, амерыканскі археолаг, заснавальнік дэндрахраналогіі – навукі, якая вызначае ўзрост драўляных збудаванняў з дапамогай даследавання гадавых кольцаў драўніны.

**1917.** Нарадзіўся легендарны іспанскі тарэра Маналетэ, які стаў прафесіяналам ужо ў веку 17 гадоў. Памёр праз 13 гадоў ад ранаў, атрыманых на чарговай карыдзе.

**1946.** Мадэльер Луі Рыэдр прэзентаваў бікіні (ад назвы выспы Бікіні ў Ціхім акіяне) – жаночы купальны касцюм, які складаецца з вузкага бюстгальтара і вельмі кароткіх плавак. Папулярнымі бікіні сталі пасля выхаду фільма «І Бог стварыў жанчыну» з Брыджыт Бардо.

### 6 ліпеня

**1687.** У Лондане апублікаваная першая фундаментальная кніга Ісаака Ньютана «*Philosofiae naturalis principia mathematica*», дзе быў выкладзены шэраг фундаментальных адкрыццяў, у тым ліку тэорыя зямнога прыцягнення.

**1907.** З Дублінскага замку скрадзеныя каштоўнасці Ордэна святога Патрыка, заступніка Ірландыі.

**1952.** Адбыўся апошні рэйс лонданскага трамвая.

**1962.** Памёр амерыканскі пісьменнік Уільям Фолкнер, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1949 году.

### 7 ліпеня

**1607.** Упершыню выкананы гімн Англіі «Божа, беражы каралеву».

**1752.** Нарадзіўся француз Жазэф Жакар, вынаходнік ткацкага станка.

**1882.** Нарадзіўся Янка Купала.

**1887.** Нарадзіўся Марк Шагал.

**1922.** Нарадзіўся вядомы куцюр'е П'ер Кардэн.

**1957.** У канадскім горадзе Пагуош адбылася міжнародная канферэнцыя, якая стала грунтам і пачаткам Пагуошскага руху вучоных за мір.

**1977.** ЗША правялі першае выпрабаванне нейтроннай бомбы, ад якой гінуць толькі жывыя істоты, а нежывыя рэчы застаюцца цэлымі.

### 8 ліпеня

**52 да н.э.** Дата заснавання Парыжу. Упершыню – тады пад назвай Лютэцыя – горад згадваецца ў «Запісках пра Гальскую вайну» Гая Юлія Цэзара.

**1497.** З Лісабону рушыла экспедыцыя Васка да Гамы ў Індыю.

**1822.** У заліве Спецыя ў Міжземным моры падчас катастрофы ветразніка патануў вядомы англійскі паэт Персі Шэлі. Целы паэта і двух яго сяброў мора выкінула на бераг праз паўтара тыдня. Шэлі пазналі па томіках Эсхіла і Кітса ў кішэнях. Спачатку цела паэта закапалі ў пясок на беразе, а потым спалілі і пахавалі на Англійскіх могілках у Рыме. Абвугленае сэрца Шэлі яго жонка насіла з сабой усё жыццё.

**1892.** Нарадзіўся савецкі авіяканструктар Мікалай Палікарпаў, стваральнік «кукурузнікаў».

### 9 ліпеня

**1877.** Адбыўся фінальны матч першага Уімблдонскага турніру, пераможцам якога стаў Спенсер Гор.

**1922.** Амерыканскі плывец Джоні Вайсмюлер першым у свеце праплыў 100 метраў менш як за адну хвіліну. Вайсмюлер вядомы яшчэ тым, што граў у кіно Тарзана.

### 10 ліпеня

**1547.** У Францыі адбылася апошняя афіцыйна дазволеная каралём сатысфакцыя. Дуэлі забаранілі, бо яны занадта часта канчаліся смерцю. Аднак, нягледзячы на забарону, французы працягвалі выклікаць адзін аднаго на дуэль. Таму ў 1566 годзе кароль Карл IX нават выдаў указ, паводле якога кожны ўдзельнік дуэлі павінен быў карацца смерцю.

**1992.** Першы і пакуль апошні раз у гісторыі Польшчы прэм'ер-міністрам гэтай краіны стала жанчына – Хана Сухоцка.

### 11 ліпеня

**1302.** У бітве каля Куртрэ ў Фландрыі нявопытныя ў вайсковай справе пешыя фландрскія змагары ўшчэнт разбілі армію французскага караля Філіпа IV Прыгожага. 20-тысячнае войска фландрскіх сялян і ткачоў з пікамі супрацьстаяла ўдвая большаму каралеўскаму войску, якое складалася з рыцарскай конніцы, арбалетчыкаў і шпурляльнікаў дроцікаў. Гэтая баталія ў гісторыі вядомая як бітва шпораў: пасля яе пераможцы знялі з забітых рыцараў залатыя шпоры і склалі іх на цэнтральнай плошчы гораду.

**1987.** Нарадзіўся 5-мільярдны жыхар планеты Зямля. Ім лічыцца Мацей Гашпар з Заграбу.

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

## Астралагічны прагноз

**ад Веранікі Кудраўцавай на 5–11 ліпеня**

*Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне будуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час народзінаў чалавека.*



**АВЕН.** Не спіце, праяўляйце вынаходлівасць, досціп. У сярэдзіне будучага тыдня ў сям'і можа адбыцца канчатковая размова пра вашыя нездавальняючыя паводзіны. Працуйце над сабою і над памылкамі.



**ЦЯЛЕЦ.** Аналітычная праца і авалодванне рамествамі прыносяць матэрыяльна адчувальны плён у выходныя дні. У панядзелак трэба дакопвацца да прычын, вытокаў таго, што адбываецца, тады наступнага дня будзе менш неспадзяванак. У сераду ў дарозе, асабліва ў далёкай паездцы, трэба пільней выбіраць спадарожнікаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** У выходныя дні ствараецца атмасфера дружбы, супрацоўніцтва, пошуку нестандартных рашэнняў. Сіла – у калектыве, камандзе і сябрах. У аўторак раскрываецца нейкая таямніца, якую вы не ўлічвалі, праяўляючы актыўнасць у галоўным напрамку. У сераду і ў чацвер не парушайце правілаў.



**РАК.** У выходныя дні фантануе фантазія, родзяцца геніяльныя творы, вера ў неверагоднае. На пачатку ж тыдня не след весці буйныя справы, ёсць магчымасць фінансавых забурэнняў глабальнага парадку. Беражыце сужонка – любое неасцярожнае слова пагражае суровымі высновамі.



**ЛЕЎ.** У выходныя дні вы атрымаеце асалоду ад сумоўя, калі знойдзеце магчымасць сустрэцца з сябрамі, здзейсніць сумесныя паездкі і прагулкі, выезды на прыроду. Але памятайце аб правілах паводзінаў на вадзе. У сераду могуць праявіцца жанчыны, якія маюць харызматычную адзначанасць. Не выключана, што нехта падасць у суд дзеля абароны гонару і годнасці.



**ПАННА.** Мабыць, вам да душы прыйдзецца падпісанне рабочых дакументаў ці пэўнасць з умовамі працы, побыту ў выходныя дні. Магчыма, давядзецца вяртацца да рызыкоўнай камерцыйнай ідэі, асабліва калі гаворка ідзе пра старыя, крыху падзабытыя справы. З каханымі або з дзіцем ладу няма ў сярэдзіне тыдня, давядзецца нейкую фінансавую частку клопату ўзяць на сябе.



**ШАЛІ.** Пагулянка дзеля забавы, рамантычнае падарожжа ці творчая гутарка з Музаю – усё можа добра прайсці ў выходныя. У аўторак адбудзецца нейкі нечаканы працяг. У сярэдзіне тыдня не рэкамендуецца нікому давяраць.



**СКАРПІЁН.** У выходныя можна шыкоўна адпачыць, заняўшыся нечым новым ці прайшоўшыся па сябрах. У сераду трэба вельмі пільна ставіцца да інфармацыі, што паступае да вас, бо ёсць высокая верагоднасць паступлення аблудных звестак, назіраецца звядзенне рахункаў і падстаўкі паміж партнёрамі.



**СТРАЛЕЦ.** Рабіце «мазгавы штурм» у дачыненні да абраных ідэяў у выходныя дні. Добра ствараць блокі, заводзіць новыя знаёмствы, сумовіцца з цікавымі людзьмі, якія мысляць нестандартна. У сераду цяжка знайсці супольную мову з тымі, хто вакол вас. Могуць быць абнародаваны ці раскрыты фінансавыя махінацыі, хабарніцтва.



**КАЗЯРОГ.** Вы можаце адчуць у выходныя дні свежы вецер перамен, атрымаць цікавую прапанову. У аўторак да вас «ліпнуць» людзі яршыстыя, пажадана трымацца на адлегласці або займаць незалежную пазіцыю. Каханне і грошы ў аўторак несумяшчальныя, верагодны сваркі. Партнёр выказвае прэтэнзіі па сутнасці ў сераду і чацвер, атрымайце па справядлівасці.



**ВАДАЛІЎ.** Вы робіцеся вынаходлівы ў каханні ў выходныя дні і набіраеце ачкі. У сераду і чацвер ёсць сэнс дзейнічаць з аглядкаю, правяраючы інфармацыю, якая паступае да вас. Не давайце гучных абяцанняў, сачыце за выказваннямі.



**РЫБЫ.** У сярэдзіне тыдня давядзецца разбірацца з шматлікімі сімпатыямі або з кімсьці з сямейнікаў. Асноўная задача – знайсці свой востраў дабрабыту і душэўнага камфорту ў буры эмоцыяў.

**НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА**







**Упарты падарожнік Стыў Фосет дамогся сваёй мэты. Шостая спроба абляцець Зямлю на паветраным шары на вышыні 7 км аказалася паспяховай**

FUTURUM

## Робаты-футбалісты



Паралельна з чэмпіянатам свету па футболе ў Паўднёвай Карэі і Японіі праходзіў аналагічны турнір сярод робатаў. Робаты-футбалісты гулялі паміж сабой у футбол на першынство свету ўжо ў шосты раз. І першы, і сёлетні такія мундыялі прайшлі, натуральна, у самай прасунутай краіне робатавытворчасці.

Галоўная мэта праекту *RoboCupSoccer* – стварэнне да 2050 году футбольнай каманды «цалкам аўтаномных гуманоідных робатаў, якія змогуць перамагчы людзей – сусветную каманду чэмпіёнаў».

Натуральна, шмат каму такая перспектыва падаецца маларэальнай, але ўвагу скептыкаў трэба звярнуць на прыклад шахматаў. Ужо не дзіва, калі чэмпіёны свету па шахматах гуляюць з камп'ютэрам і прайграюць яму. Таму не выключана, што ў далёкім 2050 годзе зборная чалавецтва ці тая ж зборная Бразіліі ў фінале чэмпіянату свету па футболе саступіць камандзе робатаў-футбалістаў. Пакуль жа, каб годна супрацьстаяць на футбольным полі людзям, робаты спачатку павінны навучыцца гуляць між сабой. На сёння футбол у іхнім выкананні вельмі прымітыўны: рухі марудныя, колькасць камбінацыйных дзеянняў абмежаваная. Больш-менш развіты толькі адзін від спаборніцтва – пенальці.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Жаночыя забойствы

*Іспанская аўтарка некалькіх твораў па крыміналістыцы Марысол Доніс выдала кнігу пад назвай «Атручальніцы», у якой сабрала дакументальныя сведчанні пра 40 жанчын-забойцаў, якія здолелі «ўзняць бытавое забойства на ўзровень самага жахлівага злачынства».*

### Прылады

Спадарыня Доніс уключыла ў свой твор і спіс прэпаратаў, якім літаратура прыпісала ледзьве не міфічныя ўласцівасці. Мандрагора, цыкута, беладона ды іншае зелле – усё гэта рабілася знішчальнай зброяй у руках «слабых істот», няздольных перамагчы свайго ворага фізічнай сілай.

У гісторыі атручванняў эпоха Асветніцтва была для Іспаніі тым жа, чым быў для Італіі перыяд праўлення Папы Борджыя. Атручальнікі здзейснілі гэтулькі злачынстваў, што тагачасны прэм'ер-міністр Іспаніі Кановас дэль Кастыльё, калі яго папрасілі перадаць каралеве просьбу аб памілаванні прыгожай і абаяльнай Хасефы Гомес, асуджанай да пакарання смерцю за атручванне свайго мужа і служанкі, адказаў, што нічым не можа дапамагчы – каралева перастала нават глядзець на стос папер з аналагічным зместам.

Мыш'як упершыню выкарыстаў у VIII стагоддзі араб Гебер, а ўжо потым у Венецыі эпохі вялікіх атручальнікаў сіньёра Тэатэнія ды Адама вынайшла так званую «аква тафана» – вытворную ад мыш'яку, вядомую таксама пад назвай «яд кахання».

Аўтарка кнігі называе мыш'як «самым смертаносным і самым знакамітым» ядавітым рэчывам за ўсю гісторыю існавання чалавечага роду. Але ў гэтай моцнай атруты ёсць недахопы. «Мыш'як можна распусціць у гарачай вадкасці, але як толькі яна астыне, рэчыва выпадзе ў асадак і стане прыкметным. Калі мыш'як распусціць у малацэ, яно ствaрожыцца». Мыш'яку таксама ўласцівы характэрны пах, які выдае яго прысутнасць у стравах. І ўсё ж, паколькі сімптомы атручэння мыш'яком вельмі падобныя да некаторых прыкмет самых распаўсюджаных захворванняў, дактары-паталагаанатамы называюць яго найбольш папулярным з самых знакамітых ядаў.

Пры чытанні гэтай кнігі валасы становяцца дыбарам, таму варта пераказаць адну паказальную гісторыю, тым болей што яна найбліжэйшая па часе да нашых дзён.

### Малако з мыш'яком

Дзяўчынку П'едад Мартынэс дэль Агіла, якая вырашыла шляхам злачынства змяніць свой прыкры лёс, можна было б назваць як заўгодна, але толькі не міласэрнай (у перакладзе з іспанскай мовы *Piedad* азначае «міласэрнасць»). Старэйшая з дзевяці дзяцей – такія сем'і часта сустракаліся ў Іспаніі сярэдзіны 1960-х гадоў – яна вымушана працавала служанкай у сваім уласным доме. Можна нават сказаць, што ў пэўнай меры злачынства П'едад паспрыяла вырашэнню тагачаснай складанай дэмаграфічнай сітуацыі, прымусіўшы дзесяткі тысяч іспанцаў перагледзець лад свайго хатняга жыцця.

Гэтую кашмарную гісторыю, што здарылася ў 1965 годзе ў горадзе Мурсіі, адкрыў тэлежурналіст Хесус Эрміда. Ён так апісваў тады юную атручальніцу: «Дзіўная, насмешлівая, загарэлая, з пульхнымі губамі, жывымі вачыма, задорнай усмешкай і вельмі напужаная».

Варта сказаць, што бацькі ўкралі ў дзяўчынкі дзяцінства. Як апавядалі яе суседзі, маленькай атручальніцы надта хацелася гуляць, але ёй даводзілася вечна працаваць у хаце. Яна глядзела малодшых братоў і сясцёр, прыбірала, мыла бялізну і гатавала на ўсю сваю вялікую сям'ю. У адрозненне ад Папялушкі, ёй ніхто не дапамагаў.

П'едад, якой абрыдла быць нязменнай служанкай, для пачатку забіла сваю малодшую сястру Марыю дэль Кармэн, якой тады споўнілася толькі дзевяць месяцаў. Згодна з заключэннем доктара, смерць наступіла ў выніку захворвання менінгітам у вострай форме.

Праз пяць дзён надышла чарга маленькага 5-гадовага Марыяна: доктар зноў палічыў, што смерць выклікана хваробай – усё тым жа менінгітам.

Паміж суседзямі пайшла пагалоска, што ўся сям'я Мартынэс заразілася нейкай інфекцыяй, і іхны дом пачалі абмінаць. Паліцыя западозрыла нядобрае, калі памерла трэцяе дзіця – чатырохгадовая Фуэнсанта. Але пры ўскрыцці ніякіх слядоў атруты ці гвалту не знайшлі. Яшчэ праз некалькі дзён памірае Андрэс – апошні з самых маленькіх дзяцей у сям'і. «Паміралі заўжды толькі малодшыя, якраз тыя, хто патрабаваў найбольшага клопату».

Свайго вызвалення маленькая братазабойца дамагалася наступным чынам: яна давала найменшым дзецям цыяністы калій, які ўваходзіў у склад атруты для пацукоў, у сумесі з ДДТ, якім атручальніца паліравала ў хаце металічныя рэчы.

Улічваючы, што малалетняя злачынка не магла панесці пакаранне за свае дзеянні, прысуд ёй выносіла камісія па справах непаўналетніх. П'едад аддалі пад апеку сясцёр з спецыяльнай установы для дзяцей-злачынцаў. У гэтым інтэрнаце маленькая братазабойца вязала панчохі. Так яна знайшла мір і спакой, у якіх ёй было адмоўлена ў родным доме.

Аднак, сталеючы, гэтая няшчасная, якая не разумела наступстваў сваіх учынкаў, пачала ўсведамляць, што яна нарабіла, і жыццё яе ператварылася ў сапраўднае пекла.

А магла яна пражыць яго інакш, калі б у яе было меней братоў і сясцёр і болей свабоды, неабходнай кожнаму.

Ва ўсялякім разе, гэта адбывалася не ў сярэднявеччы, а ў наш час, і таму прымушае больш уважліва паглядзець навокал, на жыццё малых – ці не спрыяе наш побыт жорсткасці сэрца і змрочным задумам.

**El Mundo**

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА
Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая.
Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54
Адрас для пошты: 220123, г.Мінск, а/с 103
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г.
Заснавальнік Зміцер Жук. г. Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1.

Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА.
Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная зорка»
220073, г. Мінск, Першы Загарадны завулак, 3. Заказ № 1163
Нумар падпісаны ў друк 4/07/2002 (12:00) Наклад – 6.780